Генадзь Кахноўскі

# А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю...





Вільня. Вострая брама.
Пачатак XX ст.



Браты Іван і Антон Луцкевічы
на фоне будынка рэдакцыі
«Нашай Нівы»



Касцёл св. Анны ў Вільні




Станцыя Уша



Эмілія Іванаўна Шабуня



Пакроўская царква ў Красным



Вострабрамская вуліца ў Вільні

Генадзь
Кахноўскі



# А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю...

З БІЯГРАФІІ
МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 83.3Бел 7
К 30

Малюнкі мастака
Ю. П. ГЕРАСІМЕНКІ-ЖЫЗНЕЎСКАГА

Важное событие в жизни Максима Богдановича — поездка ■ Белоруссию летом 1911 г.

Автор на основе архивных находок — а это воспоминания современников, письма нашенивцев и отца поэта к знакомым Максима — воскрешает один из самых значительных, так называемый ракутёвщинский, периодов в творчестве поэта. Издание подготовлено к 80-летию встречи Максима Богдановича с Белоруссией и 100-летию со дня его рождения.

К $\frac{4603020102-71}{М302(03)-91}$ БЗ 6—91

ISBN 5-340-00881-9

# Ты прабач,
# ты прымі свайго сына...

Узнімешся на самую высокую гару між Красным і Ракуцёўшчынай, што на Маладзечаншчыне, і асветліцца душа прыгажосцю, якой надзелены гэты край. Навокал цябе то пакатыя, то крутыя пагоркі. Глянеш на поўдзень — адкрываецца шырокая панарама старасвецкага мястэчка Краснае, якое стаіць тут ужо блізка пяцьсот гадоў. Кінеш вокам на захад — удалечыні бачыш то лес, то зялёныя нівы, а правей з-за прадаўгаватай гары выглядваюць хаты ракуцёўскага канца — гэта ўжо вёска Касцюшкі. Бяром яшчэ правей, на поўнач — на раўніне малады гарадок торфаздабытчыкаў і будаўнікоў Чысць. Вуліца з Чысці павяла на Іўкі і далей на Мазалі. Пераводзім позірк на ўсход — бачым маляўнічыя ўзвышшы, парослыя лесам, жытнёвыя палі. Тыя ўзгоркі тэрасамі сходзяць да рэчкі, што ціха плыве на падоле. Абапал яе некалькі стагоддзяў назад аблюбавала сабе месца вёсачка з мілай назвай Ракуцёўшчына, з даволі хітрым перапляценнем вулак і завулачкаў. На паўночны захад ад яе, сярод аксаміту мурагоў, на «астраўку», трохі болей за дзесяць гадоў назад стварыўся мемарыяльны парк з помнікам Максіму Багдановічу.

У Ракуцёўшчыне жыў паэт летам 1911 года, тут ён натхняўся прыгажосцю вясковага раздолля. Але Максім Багдановіч не раскрыў і не пазначыў назву вёсачкі ні пад адным вершам. Яна сталася загадкай паэта.

Да 60-х гадоў само імя вёскі ніколі не ўспаміналася ў нашай літаратуры. Недасказанасць гэтая жыла і не давала спакою багдановічазнаўцам. Недзе з 1964—1965 гадоў вяліся доўгія і настойлівыя пошукі запаветнай мясціны, каб яна стала канкрэтным радком у біяграфіі класіка.

Жывучы на берагах Волгі, даўно і неадольна мроіў Максім Багдановіч глянуць уласнымі вачыма на загадкавую, але мілую сэрцу Беларусь, прайсціся яе сцежкамі паміж высокіх жытоў, смалістых бароў і густых сенажацяў. Дзіцем пакінуўшы радзіму, ён ведаў яе толькі па кнігах і апавяданнях-успамінах сваякоў. Максім балюча адчуваў сваю адарванасць ад духоўнага і культурнага жыцця краю.

Збіраючыся на Беларусь, паэт хваляваўся, як яна яго прыме, што ён тут убачыць, што пачуе, каго сустрэне. Па закліку сваёй душы Максім Багдановіч вырушыў за тысячу вёрст шукаць адказы на свае пытанні. З берагоў Волгі кіруецца ён у Вільню, а адтуль — у Ракуцёўшчыну...

1991 год — год векавога юбілею Максіма Багдановіча — час своеасаблівых падрахункаў нашых пошукаў і роздумаў пра яго жыццё і творчасць. Па шчасліваму супадзенню — гэта і васьмідзесятыя ўгодкі паездкі Багдановіча на Беларусь. Надышоў час разабрацца ва ўсіх акалічнасцях той вандроўкі паэта. Пасля свайго другога «адкрыцця» Ракуцёўшчына вельмі хутка здабыла папулярнасць і ўлілася ў «суполку» знакамітых літаратурных сядзіб, куды паломніцтва становіцца духоўнай патрэбай людзей. Тут завязаўся моцны вузел памяці, як тады для Багдановіча, а цяпер для нас,

шанавальнікаў яго таленту. Вядома ж, былая старасвецкая сялянска-фальварковая Ракуцёўшчына даўно змяніла сваё абліччa, і ўсе ўжо едуць у абноўленую, змененую самім жыццём вёсачку. З кветкамі і добрымі думамі. Штогод прыбаўляецца гасцей і з аддаленых краёў. Ракуцёўцы ўжыліся ў сваю новую ролю называцца людзьмі з Максімавай ваколіцы, і некаторыя з іх ужо апавядаюць прыезджым пра слыннага паэта. Часам апавядальнікі расквечваюць свой расказ фарбамі ўласнай фантазіі. А яшчэ ж гадоў дваццаць назад большасць з іх пацiскала плячыма, калі гаворка заходзіла пра паэта.

Праляцела восемдзесят летаў над ракуцёўскімі пагоркамі. Рэдка якую хату можна было б назваць равесніцай той пары, а чалавека — тым больш. Колькі тут памянялася, адышло не адно пакаленне сейбітаў і жней. Колькі за гэты час песень перапета, колькі выплакана слёз. Толькі сама прырода ў ваколіцах вёскі бадай што захавалася без асаблівых змен. Праўда, ваенным часам сякера знесла зубчаты бор, агаліліся прыгажуны-ўзгоркі. І зараз яны ўгінаюцца-выпростваюцца пад цяжарам глыбокага ворыва гусенічных трактароў, страчваюць сваю першароднасць. Маляўнічасць і лагоднасць Ракуцёўшчыне надаюць квяцістыя лугавіны. Жыве-бруіцца крыніца сярод альшэўніку і вербалозу, нараджаючы і адпраўляючы ў свет рачулку да Вяллі. Не зніклі і не страцілі сваёй глыбока сялянскай прывабнасці вулачкі вёскі. Можа, некаму яны здадуцца занадта простымі, але ж і ў гэтым іх непаўторнасць.

На нашу радасць жыве тут і сакавітая на-

родная мова, напамінае пра адвечнасць людскога слова — з архаікай і наватворамі. У ракуцёўцаў ёсць свая няпісаная, але самая галоўнейшая канстытуцыя — традыцыя продкаў: «Так нашы дзяды гаварылі і рабілі, і мы так будзем». У гэтым ёсць свой рацыянальны пачатак: тут яны нараджаліся, працавалі, пелі і плакалі, а надыходзіў час — паміралі, але са сваёй зямлі не сыходзілі. Караніліся цэлыя сялянскія роды. Толькі зараз гарадское жыццё зманьвае моладзь у Маладзечна, Мінск ды яшчэ далей.

Сярод раздольнасці краявідаў запамінаецца ўжо даволі старога веку хата на тэрасе, што спускаецца да самай рэчкі. На сцяне хаты драўляная мемарыяльная дошка, якая нагадвае нам, што тут летам 1911 года жыў і працаваў Максім Багдановіч. Недалёка ад хаты пагойдваюць ужо парадзелымі чупрынамі старыя клёны ды ясені, што некалі былі навідавоку ў паэта.

Як даніна павагі Паэту — гэтая кніжачка пра яго і нашу Ракуцёўшчыну, дзе Максім Багдановіч так асэнсаваў сваё месца сярод беларускага народа:

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь!

Максіма Багдановіча можна аднесці да першага пакалення беларускіх літаратараў нашага стагоддзя. Яго жыццё было такім кароткім, але такім узнёслым, што сваёй вясёлкай ахінула ўвесь небакрай нашай культуры. Драматызм тэмпераменту, важкасць слова, высокамастацкасць вобраза, філасофскае бачанне,

гістарызм і глыбіня мыслення зрабілі яго воляпам нацыянальнага адраджэння. Ён стаў упоравень з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Яны, прызнаныя класікі нашай літаратуры, разам з Цёткай, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім, братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі ўзняліся да высокага разумення тытанічнай працы па духоўнаму абуджэнню і аднаўленню Беларусі. У сваім імкненні служыць роднаму народу яны былі і архітэктарамі, і прарабамі, і чорнарабочымі.

Творчая індывідуальнасць Максіма вырасла і на глыбокім засваенні сусветнай літаратуры. Інтэлігент з інтэлігентаў, узгадаваны на гарадской культуры Паволжа, юны Максім добра ўсведамляў дэфіцыт беларускай «фактуры» ў сваёй творчасці, асабліва вясковай. Чытаючы «Нашу Ніву», ён рэальна адчуваў розніцу паміж сабой і тымі паэтамі і празаікамі, якіх узрасціла сялянская рэчаіснасць. Дзеяч нацыянальнага адраджэння, ён не мог не шукаць сустрэчы з Беларуссю, з запаветнай Вільняй, з беларускім народам і творчай інтэлігенцыяй.

Што і казаць, час далёкі, сведкаў жа — сучаснікаў Максіма Багдановіча, з кім сёння можна было б весці гутарку, амаль анікога. Толькі на віленскай лясной палянцы, у далечыні ад гарадской сумятні, жыве адна-адзіная Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік) *. Яе выдатная памяць ужо шмат каму паслужыла. Не раз і не два дзякаваў і я ёй за парады, крытычныя заўвагі, неабходныя папраўкі і важныя дапаўненні. Адзіны жывы галасок з Максімавай пары. А яшчэ нядаўна мы пацяшалі сябе тым, што жывуць яго сучаснікі. Ця-

пер засталося толькі адно: выкарыстаць нешта з раней запісанага ды спадзявацца на архівы і бібліятэчныя сховішчы. Пакарыстаемся ўсім, чым толькі можна, каб адгарнуць напаўзабытую старонку з жыцця Паэта.

## Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай...

Не аднаго чалавека натхняла на пошукі новага незвычайнасць паэзіі і жыцця Максіма Багдановіча. Імкненне прайсці яго невядомымі сцежкамі акрыліла і мяне вясной 1964 года, калі я стаў працаваць у абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. А завабілі мяне ў дарогу ўспаміны бацькі паэта — Адама Ягоравіча Багдановіча, які пісаў пра той «хутар ці то ў Вілейскім, ці то ў Ашмянскім павеце», дзе Максім правёў два летнія месяцы 1911 года. Да крыўднага мала тых мясцін на зямлі яго бацькоў і дзядоў, дзе паэт бываў, і задача літаратуразнаўцаў і краязнаўцаў — дазнацца хоць бы пра адну з іх.

З маладым запалам, махнуўшы рукой на ўсе нязручнасці, выправіўся я ў пошукі. Прахадзіў год, другі, я пазнаёміўся з наваколлем Маладзечна, адкрыў для сябе не адну старасвецкую сядзібу, запісаў цікавыя легенды і паданні, нямала новых экспанатаў прывёз у музей. А вось той хутарок па-ранейшаму заставаўся загадкай. Дзе шукаць яго?

Саджуся за вывучэнне аўтарытэтных крыніц, найперш чытаю крытыка-біяграфічны нарыс Івана Замоціна, які пісаўся праз якія-не-

будзь дзесяць гадоў пасля смерці М. Багдановіча, калі жылі бадай усе галоўныя сведкі паэтавай паездкі на Беларусь. І. Замоцін пісаў: «Тады ж, у канцы навучання ў сярэдняй школе, у яго з'явілася жаданне ўбачыць сваю радзіму і стаць непасрэдна блізка да жывой крыніцы свайго натхнення,— да крыніцы, з якой чэрпаў пакуль што толькі праз кнігі. Такое паходжанне яго паездкі на Беларусь улетку 1911 года адразу пасля сканчэння гімназіі...» [1] Няшмат, нават не названа сама мясціна, куды ехаў Максім.

Спрабуем шукаць «інфармацыю з першых рук» у «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага. Не можа быць, каб дапытлівы даследчык не ўспомніў важнага факта з біяграфіі свайго цёзкі.

«Быўшы студэнтам, ён [Максім Багдановіч.— *Г. К.*] ужо ўсёю душою аддаўся беларускай літаратурнай творчасці, апрача таго, пісаў аб беларускіх справах у расейскіх і асабліва шмат у ўкраінскіх часопісах. Як пішуць асабіста знаўшыя яго людзі (З. Бядуля), цяпер Багдановіч «зайздраваў тым шчасліўцам з беларускіх паэтаў — дзяцей сялян, што хоць пастушкамі былі, але ў родным полі, у родным лузе, у сваіх лясох, пушчах і балотах. Павэдлуг яго здання, песняры, жыўшыя ў самых глухіх кутох роднай зямлі, маглі ўбіраць у сябе творы, самабытны, абвеяны казкамі дух свайго народу». Ён з нецярплівасцю чакаў таго часу, калі здолее паехаць і першы раз пабачыць бацькаўшчыну і першы раз пачуць яе жывую мову. У 1911 годзе ён меў, як сам казаў, «вялікае шчасце»: ён пабачыў бацькаўшчыну і прыехаў на колькі дзён у яе старую

сталіцу — Вільню. З незвычайнай радасцю пераказваў тут паэт сваім знаёмым, што гэта было для яго за шчасце, бо «далёкая, нязнаная бацькаўшчына — Беларусь неяк дзіўна чаравала яго і вабіла к сабе ад таго часу, як ён пачаў жыць свядомым жыццём; самае імя яе будзіла ў душы паэта дзіўны стан і здавалася яму, што вось-вось брызнуць слёзы з яго вачэй» [2].

У кнізе «Адбітае жыццё» Антон Навіна (А. І. Луцкевіч) таксама згадвае гэты важны эпізод: «...адведаў старую Вільню, пабываў на вёсцы — Вялейшчыне (каля Краснага), сярод беларускіх ніў і гаёчкаў» [3]. Таксама вельмі скупа.

Гэтыя запісы з'явіліся ў друку раней, чым успаміны бацькі Максіма. Прыйшоў час прывесці ўрывак з мемуараў Адама Ягоравіча. «Яго [Максіма.— *Г. К.*] цягнула Беларусь, дзе яму хацелася пазнаёміцца асабіста з беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі па беларускім адраджэнні, якія, між іншым, у пісьмах абяцалі яго ўладкаваць у якой-небудзь сухой мясцовасці з сасновым лесам. Я, разумеецца, нічога супраць гэтага не меў, і ён адправіўся ў Вільню ў палавіне чэрвеня (1911) адразу ж па выхадзе з гімназіі. Паездка прадаўжалася два месяцы з невялікім і ўзбагаціла яго жывымі назіраннямі роднага краю, знаёмствам з яго жыхарамі і дзеячамі, увогуле паставіла твар у твар з жывой рэчаіснасцю, якую да гэтага часу ён ведаў па кнігах або расказах маіх сясцёр, яго цётак. Частку часу ён правёў у Вільні, жывучы ў кватэры сакратара рэдакцыі «Нашай Нівы», а затым на якімсьці хутары ці то ў Вілейскім, ці то ў Ашмянскім павеце» [4]. І тут

адказу няма, хоць сама вандроўка паэта на Беларусь ацэнена як вельмі важная.

«А крыніцы?» — каторы раз задаю сабе пытанне.

Недзе ў 60-х гадах мяне запрасіў у Дуброўскую сярэднюю школу, што на Маладзечаншчыне, настаўнік, краязнавец і паэт Вячаслаў Васільевіч Міхасёнак. На яго юркай «Яве» мы хутка даехалі ў аддалены хутарок Шапавалы, дзе здаўна жыў род Камаедаў. Сёння гэта сумежжа Маладзечанскага і Мінскага раёнаў, а ў 20—30-я гады поруч з хутарком праходзіла дзяржаўная граніца, падзяляўшая беларускую зямлю напалам. Прыкмета таго часу — будынак былой польскай заставы, дзе зараз месціцца пачатковая школа.

З дазволу добразычлівай гаспадыні мы ўзлезлі на гарышча старой хаты, бо ведалі, што на такіх гарышчах часта можна знайсці неацэнныя скарбы для музея. Сапраўды, я не памыліўся. Якое ж маё было здзіўленне, калі там знайшліся вельмі рэдкія нумары газеты «Минский вестник» за 1917 год, у адным з якіх чорнай рамкай абведзена дарагое імя Максіма Багдановіча. Трапілася яшчэ некалькі рэдкіх кніг, часопісаў, даўніх падручнікаў, а таксама асобныя лісткі моцна пашкоджаных часопісаў, нейкіх выданняў. Сярод іх парудзелая старонка з невядомага часопіса з публікацыяй Я. Руніча «Максім Багдановіч». Па ўсім бачна — той, хто збіраў гэтую нацыянальную бібліятэчку, асабліва цаніў Максіма Багдановіча.

Ужо дома, распрастаўшы той пацёрты аркушык з тэкстам незнаёмага мне Я. Руніча, прачытаў: «Асабісты кантакт з актывам бела-

рускага адраджэнскага руху і побыт у родным краі, у беларускай вёсцы ў Вілейшчыне, каля Краснага, яшчэ больш узмацнілі і пабудзілі Багдановіча да творчай працы. Пасля гэтага з'явіліся цэлыя цыклы вершаў пад назвай «Старая Беларусь», «Места», «У вёсцы» і «Вераніка...».

Інфармацыя нязнанага Руніча вельмі каштоўная. Не выключана, што ён добра ведаў пра тую паездку паэта. Інфармацыя А. Луцкевіча і Я. Руніча падказала мне лакалізаваць свае пошукі вакол старасвецкага мястэчка Краснае, у асноўным у Маладзечанскім раёне. Зноў у дарогу. Недзе глыбока ў душы я ўжо разумеў і адчуваў, што тая беларуская мясцінка для Багдановіча мела такое ж значэнне, як Болдзіна для А. С. Пушкіна.

Вядома, што паездка паэта была ўзгоднена з завочнымі сябрамі і калегамі, якія яго чакалі і загадзя дамовіліся аб месцы адпачынку. Ведалі ў Вільні і пра хваробу Максіма, а таму выбралі такі куток, дзе было б сухое месца, бор і каб вёсачка мела характэрныя нацыянальныя рысы, словам, дыхала б самой Беларуссю.

Дарогі пошукаў заводзілі мяне ў Раёўку, Альковічы, Абадоўцы. Нехта сказаў, што там жыў Багдановіч. Жыць то жыў, але які? Проста аднафамілец, уладальнік багатага маёнтка ў Альковічах...

Сонца хілілася за гарызонт, калі я ўжо не першы раз вяртаўся праз Краснае ў Маладзечна пасля зноў бясплённых пошукаў. Углядаўся ў заснежана-іскрыстыя пагоркі, за якімі ў заінелай цішыні дрэў раз-пораз праглядваліся хаткі з вячэрнімі дымкамі зімовай Ракуцёў-

шчыны. Прыгожы пейзаж вясковай зімы з дзецьмі, санкамі, лыжамі... Кіўнуў бы мне тады хоць хто-небудзь у бок гэтай вёсачкі, і на цэлы год скараціліся б мае пошукі.

Пакуль жа пытаюся ў людзей, учытваюся ў спадчыну паэта і яго бацькі, шукаю звесткі ў Гістарычным архіве Літоўскай ССР, спрабую наладзіць сувязь са старымі дзеячамі беларускай культуры. Многіх з іх не застаю жывымі, а іншыя бездапаможна разводзяць рукамі. Пытаючы старэйшых, не думаў, што і маладзейшыя могуць нешта ведаць. Вось з адным тады яшчэ не знаёмым мне чалавекам я і разгаварыўся.

— Максім Багдановіч падпісаў майму бацьку свой «Вянок»: «Пану Антону Навіне на спамін ад аўтара»,— раптам гаворыць мой новы знаёмы.— Я нічога так не шкадаваў, як тую сямейную рэліквію. Ніколі з ёй не разлучаўся. На жаль, злы рок і ліхалецці вырвалі ў мяне тую кніжачку, страціўся аўтарскі «Вянок».

— Хто скажа, дзе мог жыць Максім Багдановіч летам 1911 года?

Я не паспеў растлумачыць, што ды як, а мой субяседнік — Юрый Антонавіч Луцкевіч, тады яшчэ маладжавы інжынер-будаўнік, тут жа выпаліў — як быццам бы ўсё жыццё чакаў такога пытання:

— Дык гэта ж Ракуцёўшчына, па суседстве з Красным, там і трэба шукаць сляды паэта. Чуў ад бацькі, што прыязджаў Максім Багдановіч у Вільню па справах выдання свайго першага зборніка, а заадно твар у твар пабачыцца са сваімі завочнымі сябрамі — нашаніўцамі. Ведаў жа іх толькі па перапісцы і па

творах. Ды і самім віленчукам хацелася ўбачыць свайго далёкага калегу, запрасіць да сябе ў госці. Якраз браты Луцкевічы і прапанавалі яму адпачыць сярод вяскова-палявых прастораў каля Краснага, на хутарку побач з Ракуцёўшчынай, дзе жыў іх родны дзядзька Вацлаў Лычкоўскі. Гаспадарка ў таго дзядзькі была моцная, жыў ён адзін з сястрой Ядвігай, а гэта гарантавала поўны спакой Максіму. Ну а сама прырода як найлепей спрыяла таму, каб паправіць кволае здароўе юнака. У 1920-х гадах я з бацькам і малодшым братам Лявонам не раз ездзіў туды і прыпамінаю, як сон, тую прыгажосць.

— Хто вазіў Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыну?

— Магчыма, суправаджаў паэта Іван Луцкевіч, апантаны збіральнік беларускіх старажытнасцяў, археолаг, стваральнік першага беларускага нацыянальнага музея ў Вільні, цікавы расказчык. Пра гэта бацька не гаварыў, але ж, як мне здаецца, хутчэй за ўсё ехаў з паэтам у Ракуцёўшчыну якраз ён сам, а не Іван Іванавіч.

Што ж, Антон Луцкевіч цікавы субяседнік, сам літаратар, таленавіты крытык, магчыма, ён якраз і адвёз Максіма ў Ракуцёўшчыну да дзядзькі Вацлава Лычкоўскага, роднага брата сваёй маці Соф'і Эмярыкаўны.

Да канца маёй віленскай камандзіроўкі заставаліся лічаныя дні. Вячэрняе сонца яркімі промнямі асвятляе мой стол ва універсітэцкай бібліятэцы, дзе праглядваю старонкі часопіса «Крывіч» за 1926 год. У першым жа нумары на вочы трапляюцца «Мае ўспаміны аб М. Багдановічу». Іх аўтар Вацлаў Юсцінавіч

Ластоўскі. Чытаю: «На нарадзе, якая адбылася паміж братамі Луцкевічамі і А. Уласавым, М. Багдановічу адпісаў А. Луцкевіч, запрашаючы на лета да свайго дзядзькі, дробнага шляхціча, які меў свой фальварак недзе між Вілейкай і Менскам.

У чэрвені месяцы прыехаў Максім Багдановіч у Вільню...»

У думках я ўжо блукаю па тых пагорках, хаджу па запаветных сцежках.

Вяртаюся ў Маладзечна і, надоўга не адкладваючы справу, цягніком імчу да Краснага, каб прайсці ўвесь той даўні Максімаў шлях.

Не першы раз я выходжу на стары, зацёрты нагамі перон станцыі Уша, але на гэты раз адчуванне асаблівае — іду па слядах Максіма. Што ж тут пакінуў нам час? Самае галоўнае — вакзал той самы, толькі пастарэў, у зямлю ўціснуўся ад дрыжання пад вокнамі тысячатонных цягнікоў. Тады ж ён глядзеўся байчэй, на высокім падмурку, з вялікімі вокнамі на поўдзень. Пабудавалі яго недзе каля 1872 года, як толькі пралегла праз старасвецкае мястэчка Краснае Лібава-Роменская чыгунка. Назву станцыі далі па імені ракі Уша, бо на гэтай лініі ўжо была адна станцыя Краснòе, што паміж Оршай і Смаленскам. Будавалі вакзал мясцовыя цесляры ў традыцыі беларускага народнага драўлянага дойлідства. Просты па кампазіцыі будынак выкананы ў прамавугольным плане, як звычайная сялянская хата. І ўсё ж гэта не хата, прадстаўнічасць вакзалу надаюць эстэтычная выразнасць рытмічнага члянення фасада, сіметрычныя мансарды, якія ўзбагачаюць пластыку кампазіцыі.

Гурт людзей вырушыў з цягніка і рассыпаўся ў розныя канцы мястэчка. Кожны заняты сабой, сваім клопатам. Я іду да цэнтра Краснага, а там рукой падаць да запаветнай вёсачкі. Пытаць не трэба, бо не раз ужо тут праходзіў і праязджаў. Вось і цэнтр мястэчка, трохкутная плошча з танкам на пастаменце ў памяць вызваліцеляў 1944 года. Па адзін бок старыя гандлёвыя дамы, па другі — доўгі будынак заводзіка, з трэцяга — саўгасная кантора і пошта. Змяшаліся часы і стылі. Міма старой царквы вузенькай, глыбока ўезджанай вулкай кіруюся ў бок Ракуцёўшчыны. Дарога ідзе пад гару. Удалечыні ўзвышаюцца толькі чупрыны старых клёнаў. Некалькі пакручастых паваротаў — і я на вяршыні ўзвышша. Азіраюся назад, як некалі мог азірнуцца і Максім, каб глянуць на немалое Краснае, што глядзіцца з гэтай вышыні доўгім ланцугом хат уздоўж даўняга Віленскага гасцінца. То тут, то там адбягаюць ад цэнтральнай магістралі кароценькія вулкі. Трохі паўднёвей дымком абазначыў свой чыгуначны шлях паравоз, які натужліва цягне даўжэзны састаў на Мінск. А там далей за чыгункай таксама вулачка, што ўліваецца ў вёску. Гэта Канчаны — радзіма беларускага драматурга Івана Козела. А навокал шырокая панарама ўзвышшаў, парослых лесам, зялёных палёў, дзе-нідзе пакручастых узгорыстых дарог. Прыгажосць... Так і хочацца сказаць: «Дзе твой пэндзаль, шаноўны мастак!» Высокая цішыня навокал...

— Як гэта гара называецца? — пытаюся ў селяніна, які, напэўна, добра-такі здарожыўся, ды яшчэ пхне ровар з навешанай на кіраўніцы сумкай з хлебам.

— Усяк называюць, адны Вісельняй, бо некалі чалавек тут павесіўся, другія — Целеграфам, бо, мусіць, нешта было тут для гэтай службы. Гара, ды ўсё...

Чалавек узрадаваўся, што дабрыў да хрыбеціны ўзвышша, асядлаў свой стары «баляновы» ровар, што датрываў яшчэ з польскага часу, і яго самакат лёгенька паплыў палявой сцяжынкай.

Зачараваны пейзажам, вясенняй цеплынёй і сонцам, што ажыўляе ўсё навокал, я любаваўся далёкімі і блізкімі ваколіцамі, якія, напэўна, нікога раўнадушным не пакінуць.

Дарога крута паварочвае да Ракуцёўшчыны. З горкі разглядаю вясковы пейзаж. Цяжка разабрацца адгэтуль, колькі тут вулак і завулкаў, але, напэўна, дзве-тры ёсць. Такія крутыя павароты, што не ўгледзіш, як вуліца пайшла налева ці направа. Узгоркі, лажбінкі, і толькі ў самым нізе працерабіла сабе рэчышча крынічная рэчачка, уся ў альшэўніку і лазняку. Кожны селянін забудоўваў сваю сядзібу так, як дазваляў яму гэта ўзгоркавы рэльеф. Некалькі гаспадароў нібы адлучыліся ад асноўнай грамадкі хат і ўтварылі сваю «аўтаномію». Іх тут называюць Падкрасненскімі, або Падкраснае. А на захад ад вёскі расселася вялікая саўгасная ферма з усімі сваімі «прыгажосцямі». Колькі ўжо гадоў дыхае гэтымі цяжкімі выпарэннямі Максімава Ракуцёўшчына.

Набліжаюся да гурту жанчын, якія схіліліся над бульбай-насенкай каля раскрытых капцоў. На маю просьбу — хто б змог расказаць пра дарэвалюцыйную Ракуцёўшчыну — жанчыны пачалі называць імёны і вясковыя мянушкі ўсіх дзядуляў і бабуляў. А сышліся

ўсе на адным чалавеку — Вінцэсю Есьмановічу, сказаўшы: «Ён пісьменны, яшчэ за царом у Красненскую школу хадзіў, мае добрую памяць, праўдзівы чалавек, яму можна верыць». З такой атэстацыяй добрага дзесятка ракуцёўцаў я і пайшоў да старажыла.

## Равеснік Максіма

Гаспадара я застаў дома. Ён рэдка адлучаўся ад сваёй ужо таксама немаладой і цяжкахворай жонкі. Зразумеўшы мэту майго завітання, чалавек стараўся мне дапамагчы. Разважлівы Вінцэсь Есьмановіч няспешна паглыбляецца ў сваю маладосць. Малюе вобраз той Ракуцёўшчыны, якая жыла ў ім памяццю далёкага дзяцінства, з яе саламянымі стрэхамі курных хат, якія тады не былі рэдкасцю, з талокамі, вяселлямі, хрэсьбінамі, валачобнікамі, Купаллем... Жонка дапаўняе расказ, удакладняе, дадае жвавасці апавяданню, прыпамінае цікавыя здарэнні з даўно мінулых гадоў. Потым дзед Вінцэсь знімае з цвіка лёгкую кепачку, традыцыйным жэстам вясковага беларуса насоўвае яе на лоб, лёгкім кіўком галавы запрашае мяне на двор, мяркуючы, што тут больш прастору для думкі і гутаркі.

— Пытаецеся, дзе стаяў старасвецкі дом Лычкоўскіх? Ён не знік, стаіць. Толькі Валодзя Грышэль перабудаваў яго, і, канечне, многае змянілася ў яго выглядзе. Вунь тая сядзіба,— паказвае Вікенцій Мікітавіч у бок Краснага на хату пад клёнамі.— З Вільні і Мінска да Лычкоўскіх даўней не раз прыязджалі госці.

— А хто гэтыя Лычкоўскія?

— Людзі заможныя, як па тым часе, але панамі іх не назавеш. Праўда, ракуцёўцы з павагай да яго звярталіся — «пан Лычкоўскі».

— А як выглядаў яго дом?

— Дом не такім ужо панскім выглядаў, зроблены па даўняй модзе, мала чым адрозніваўся ад нашых вясковых хат. Можа, трошкі далікатней і багацей трымаўся. Мелася некалькі пакояў, кухня, спіжарка (кладоўка-трохсценка), пры доме была такая ж старая ўжо замшэлая веранда, невялічкія вокны. Запомнілася мне тое, што над страхой ужо красаваўся далікатна складзены комін, бо для нашых сялянскіх хат гэта яшчэ лічылася раскошай, і дым з печы ішоў праз вяршок у сені, закурваючы сцены і столь. Да дома Лычкоўскага вяла сцяжынка, абапал якой зелянелі прысады. Хата гаспадара не зачынялася ні для кога, і людзі яго паважалі. Прыслугі было ў яго няшмат, можа, са два чалавекі, і тых ужо нікога няма ў жывых. Во яны,— разважае далей Вінцэсь Есьмановіч,— маглі б падрабязней расказаць і пра фальварак, і пра Лычкоўскіх, і пра Багдановіча. Сам жа я таго году служыў у царскім войску, хоць мне і расказвалі пазней, што прыязджаў сюды маладзенькі, надзіва слабы здароўем паэт.

Стары Вінцэсь раіць зайсці да яго сястры Александрыны, якая жыла тады амаль поруч. Праз хвілін дзесяць я ўжо сяджу ў другой сялянскай хаце. Пажылая кабета не пацвярджае таго, што тут бываў паэт, але расказвае пра розных гасцей, якія даволі часта наязджалі да Лычкоўскага. Малодшая з роду Есьмановічаў прыпамінае некаторых гасцей, але каб каго паэтам называлі — нешта не даводзілася чуць,

хоць аднаго маладога чалавека яна як праз сон прыпамінае.

— А можа, пра тое, што тут жыў той паэт, не раілі погаласку распускаць? — усумнілася Александрына Мікітаўна.— Лычкоўскі любіў гасцей, а як ён іх сустракаў...

І мне ўявілася, як пасля доўгай дарогі, недзе надвячоркам, калі сонца хоць і павярнулася на захад, але па-чэрвеньску моцна яшчэ прыгравала, і ўся сядзіба Лычкоўскіх свяцілася гасціннасцю, сюды прыехалі госці. Уладар фальварка ішоў насустрач ім.

— Я думаў, што паэты ўжо сталыя людзі, а тут жа дык зусім малады чалавек, ну проста дзяцюк...

Прывітанні, паціскі рук.

Максім углядаўся ў новых людзей, прыслухоўваўся да кожнага слова Вацлава Эмырыкавіча і яго сястры Ядвігі Русецкай. Напэўна ж, да позняга вечара ішла шчырая і прыемная гутарка. Усе яе ўдзельнікі хутка паразумеліся і ўмовіліся пра жыццё Максіма ў фальварку. Уяўляю, як назаўтра ранюсенька падняўся паэт, каб пачуць гукі абуджанай вёскі: скрып жураўля пры студні, ражок пастуха, рыканне кароў,— усё для яго новае і радаснае.

...Зноў вяртаемся ў хату Вікенція Мікітавіча. Ашчадны ў слове і паважны ў сваіх рухах, сапраўдны селянін-беларус — нетаропка расказвае пра кожны закутак ракуцёўскай зямлі. Адны куплялі зямлю, а хто і ў пасаг даставаў, а нехта і прадаваў — каму як выходзіла, так той і жыў. Зямля пясчаная, багаццем тут не пахвалішся Усё яму змалку вядома, амаль уся гісторыя прайшла на яго вачах. Шмат тут усякіх легендаў і паданняў.

— Калі ў Ракуцёўшчыне хто хату купляў, то і за тую гісторыю грошы дабаўляў,— неяк нечакана вырвалася ў старога ракуцёўца.— Во іх колькі ў нас, тых паданняў,— на твары Вікенція Мікітавіча засвяцілася ўсмешка.— Напэўна, у той час нямала наслухаўся і нагледзеўся Максім Багдановіч. А было ж тады ў нас і гутарлівых дзядоў, і галасістых пяюх.

За апошнюю фразу я ўхапіўся. І сапраўды, як жа паэту без народнага слова? Якія песні ён мог тут пачуць? Варта паслухаць старых жанчын, якія век жывуць з песняй.

## Пушчу голас дуброваю...

Вінцэсь Есьмановіч падказаў мне імёны ўжо нешматлікіх пяюх, якія яшчэ агалошваюць ваколіцы сваімі песнямі. Сярод іх была і яго сястра Александрына, і Марыя Іосіфаўна Ульчыц, ды і іншыя ракуцёўскія кабеты.

Румяна, поле румяна,
Повен двор коней нагнала,
Ніхто тых коней не знае.
— Выйдзі, татачка, да току,
Выйдзі, татачка, да току,
Дай гэтым коням аброку,
Бо гэтыя коні здалёку.
Не так здалёку, з Вялейкі,
Паслаў па мяне міленькі.

— Гэтую песню ў нас пелі вясной. Яе мог чуць і Максім Багдановіч. І такую тады пелі ў пачатку лета,— гаворыць Марыя Іосіфаўна.

Вот загадалі на вайну
Нашаму сялу ўсяму,
Нашаму войту самаму.
У нашага войта сыноў нет,

Адна дачка на раду,
Тая паедзе на вайну.
— Паедзем, татка, да торгу,
Купім сукенку да долу,
А да сукенкі коніка,
А да коніка сядзелца,
А да сядзелца струменца,
А да струменца востры нож.
Паедзем, татка, ваяваць,
Семсот казакаў забіваць.

Ці вось гэта меладычная песенька.

Лугавая перапёлачка,
Дзе ты зіму зімавала?
Дзе ты зіму зімавала?
Лугавая перапёлачка,
Дзе ты лета летавала?
Дзе ты лета летавала?
Зімавала у крыніцы,
Летавала у пшаніцы.
Лугавая перапёлка,
Лугавая перапёлка,
Дзе табе лепш было?
Дзе табе лепш было?
Было добра у крыніцы,
Было добра у крыніцы,
Яшчэ лепей у пшаніцы,
Яшчэ лепей у пшаніцы.

— Напэўна ж, Максім Багдановіч чуў і купальскія песні, ўсё ж гэтае свята яго заспела ў Ракуцёўшчыне,— кажу да старэйшай, Александрыны Мікітаўны.

— Купалле адзначалася, і дзяўчаты ўсё наваколле перакрывалі песнямі.

А на Яна Купала
Іграла сонца, іграла.
Іграла сонца, іграла,
Дзевачка зелле збірала.
Збірала зелле — драмала,
Віла вяночак — заснула,
Віла вяночак — заснула.

Ехаў малойчык — ня чула,
Ехаў малойчык — ня чула.
Кінуў сагнэцік — ня ўлучыў.
Саскочыў з каня — пабудзіў.
— Што ты, дзевачка, ня чуеш,
Што ў цёмным полі начуеш?
Устань, дзевачка, не ляжы,
Падымі сагнэцік на мяжы.
І ўсім хлопцам пакажы,
І ўсім хлопцам пакажы —
Нашла на Купалле на мяжы.

Ці вось яшчэ адна купальская песня.

Ой была, была на рыначку,
Ой чула, чула навіначку —
Малойчык каня прадае,
Ён прадае, жалее.
— Ой, косю, косю вараны,
Ты ў мяне, косю, дарагі,
Хвастом вулачку падмяцеш,
Вочкамі зоры палічыш,
Галасом дзевак прыклічыш.

А калі паэт у вёсцы прабыў два месяцы, то ён мог застаць і першае жніво ды пачуць хоць бы такую песню.

Да вячорная зара
Перахожая была,
Перайшла ўсё неба,
Дастала да месяца.
Як стала — засвяціла,
Сонейка засмуціла.
Маладая дзевачка
Перахожая была,
Перайшла сені, хату,
Памінула мамачку,
Дастала да свякроўкі,
Як стала — заплакала:
— Свякроўка, мая мамка,
Ці буду табе міла,
Як роднай мамцы?
— Дачушка, дзіця маё,
Хоць бы ты і шаўком была,

Не будзеш ты мне міла,
Як сваёй роднай мамцы.

А як нясліся конікі з кірмашу паўз вокны хаты, у якой жыў Максім Багдановіч, то хіба ж ён не чуў тыя галасы падвяселеных мужычкоў?

Баба Еўка, дзед Тамаш,
Го-го-го.
Паехалі на кірмаш,
Го-го-го.
Што павезлі прадаваць,
Го-го-го.
Гэта трэба зрахаваць,
Ўха-ха-ха.
Дзве курыцы, петуха,
Го-го-го.
І асьміначку аўса,
Го-го-го...

Ці яшчэ вось такая.

— Кума мая, кумачка, дзе жывеш?
Чаму мяне ў госцейкі не завеш?
— Ці ты, кум, розуму пытаеш,
Ці ты маёй хатачкі не знаеш?..

Чуў паэт тут і гаротныя песні, поўныя жалю. Жыццё ж народнае ўсё на святлаценях...

## Чытаючы архіўныя старонкі

Вока сучасніка бачыць Ракуцёўшчыну зусім не такой, якой яна была восемдзесят гадоў назад, пад саламянымі стрэхамі, з натуральнай гаспадаркай, у якой чуўся водгалас далёкага патрыярхальнага жыцця. Душа ж сялянская тут і цяпер яшчэ такі някепска караніцца, хоць і моцна падсечана пазнейшымі рознымі пераменамі.

Але за прайшоўшыя дзесяцігоддзі не надта змянілася планіроўка вёскі. І гэта нягледзячы на пажары, войны, беды. Сіла вёскі ў традыцыі, і дзякуючы ёй яна кожны раз адраджалася «па старых паперах». Гэта, можа быць, і ёсць самае істотнае ў Ракуцёўшчыне, калі думаць пра яе мемарыяльнасць.

Прыехаўшы з Вільні на станцыю Уша, Максім Багдановіч, напэўна, перш за ўсё прайшоўся вулачкамі мястэчка Краснага. Ну што ж там нейкая вярста хады ад вакзала да Ракуцёўшчыны. Паэт мог тады бачыць у Красным мноства крамак, паштовую станцыю, Пакроўскую царкву, якая тут стаіць з 1889 года. У 1911 годзе дабудоўваўся касцёл, які асвяцілі ў 1912 годзе. На самай высокай гары ў Красным стаяў прыгожы палац — помнік драўлянага дойлідства канца XVIII стагоддзя, які належаў пану Снітку. Тую будыніну яшчэ называлі «домам паляўнічага» ці «домам Напалеона». Але адно і другое — хутчэй легенда, чым праўда.

Пра побыт мястэчка і навакольных вёсак, у тым ліку і Ракуцёўшчыны, пісаў па просьбе Рускага геаграфічнага таварыства настаўнік Красненскай школы Мікалай Кладніцкі. Яго каштоўныя нататкі захоўваюцца сярод манускрыптаў рукапіснага аддзела бібліятэкі Віленскага універсітэта, і ёсць магчымасць падзяліцца ўражаннем ад прачытанага.

Краснае ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя мела 75 двароў з насельніцтвам у 600 душ. Раскінулася абапал гасцінца Мінск — Маладзечна — Вільня. Мястэчка стаіць на несуднаходнай рацэ Уша, па імені якой і названа гэтая станцыя, што ўзнікла пры чыгунцы, якая злу-

чае Лібаву (Ліепаю) і Ромны. Драўляны вакзал 3-га класа. Тыя майстры, што ўзводзілі гэтую будыніну, мелі ў дзень заробкі ад аднаго да трох рублёў. Рынка тут не было, і местачкоўцы, і навакольныя сяляне ездзілі на торг у Маладзечна, Гарадок, Радашковічы. Хоць матэрыял не датаваны, але гутарка ідзе пра Краснае канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. Тут жылі людзі розных прафесій: сталяры, муляры, кавалі, бондары, ткачы, каменяры. Але найбольш сталым заняткам было земляробства. У XVII ст. ім уладаў Я. Кішка.

М. Кладніцкі ў адказ на пяцьдзесят пунктаў анкеты Геаграфічнага таварыства даў некаторыя звесткі і пра Ракуцёўшчыну. Удакладніўшы, што тут сенакосамі занята 22 дзесяціны зямлі, лугамі — 15, ён заўважае пра адсутнасць добрых пашаў, а «таму скаціна аташчалая». Лепшыя пашы ёсць толькі каля Свідаў і Граніч. Спосаб вядзення сельскай гаспадаркі ў большасці выпадкаў трохпольны, радзей — двухпольны. У Ракуцёўшчыне было да 200 дзесяцін зямлі, якія можна было браць у арэнду. Меўся яшчэ лес. Гуртавога жывёлаводства тут не існавала. Настаўнік з пратакольнай дакладнасцю апісаў, чым і як абсяваюць палі, якія культуры садзяць у агародах.

Цікавае назіранне Мікалая Кладніцкага пра мову. Яно асабліва важнае для нас, паколькі да гэтай гаворкі прыслухоўваўся Максім Багдановіч. Паводле М. Кладніцкага, тут панавала беларуская мова. На ёй размаўлялі не толькі сяляне, але і шляхта і нават красненскія яўрэі, толькі апошнія дадавалі свой жаргон. Сярод некаторых лютэран можна бы-

ло часам пачуць польскую мову. А па-руску размаўляў толькі адзін святар Красненскай царквы [5].

Паколькі ў Кладніцкага звестак пра Ракуцёўшчыну не багата, то звернемся да польскага «Слоўніка геаграфічнага...» (1888), дзе сказана, што тут жыло 37 душ. Сярод землеўласнікаў значыцца яшчэ і фальварак сям'і Стацэвічаў. Лічба жыхароў даецца прыблізная, і таму звернемся яшчэ да матэрыялаў перапісу насельніцтва 1897 года. У Ракуцёўшчыне Краснасельскай воласці Вілейскага павета жыло 68 душ, сярод іх 32 мужчыны. Акрамя аднаго, усе аднесены былі да сялянскага саслоўя [6]. Вёска ўспамінаецца ў 1646 годзе.

Такім чынам, складваўся своеасаблівы партрэт Ракуцёўшчыны часоў Максіма Багдановіча.

## Стаяў калісь тут бор стары...

Буры XX стагоддзя не абышлі бокам і некалі зусім прыціхлую Ракуцёўшчыну. Змянялі яе не толькі войны, але і славуты тэхнічны прагрэс. Даўно няма таго бору, які яшчэ перад самай вайной сорак першага года падступаў да самай вёскі. Выйдзеш з хаты — збірай грыбы. Інакш выглядае, бадай што, кожная хата, змяніў сваю знешнасць і той багдановічаўскі «старасвецкі дом», дзе жыве зараз сям'я Уладзіміра Грышаля.

Дружную сям'ю застаў за работай: бялілі, фарбавалі, мылі — рыхтавалі сваё жытло да велікоднага свята. Звяртаюся да Уладзіміра Андрэевіча:

— Ці не расказалі б, наколькі адрозніва-

ецца ваша хата ад той, што тут раней стаяла і ў якой жылі Лычкоўскія?

— Яна і ёсць. Той фальварковы дом прастаяў да канца 50-х гадоў. Нам ён здаўся старым і нязручным, таму я і ўзяўся яго перасыпаць. А як стаў разбіраць, то дзіву даўся: бярвенні як звон, толькі дзе-нідзе падгнілі падрубы. Летам 1957 года я замяніў тыя падрубы, наслаў новую падлогу. Заадно на пару метраў «падкараціў» хату, адкінуў старую спіжарку. Усё астатняе пакінуў так, як і раней было. Тыя ж вокны, нават шалёўка ранейшая прыдалася.

Ветлівы гаспадар падвёў мяне да акна і паказаў на даўнія фігурныя скобкі, шпінгалеты.

— Усё гэта з таго старасвецкага дома. Лічыце, што хата адноўлена па тым самым фасоне, калі тут яшчэ жыў стары Лычкоўскі.

З Уладзімірам Андрэевічам выйшлі на двор. Пачаў ён расказваць пра тую сядзібу, якая яму запала ў памяць яшчэ з 20-х гадоў.

— Тыя высокія клёны стаяць, ды і ясені старыя, яны і Максіма Багдановіча памятаюць. І гэтыя яблыні старыя таксама з той пары. На жаль, пладоў ужо не даюць, трэба сад абнаўляць. Тут у садку паміж дрэў стаяла маленькая хатка. Жыла тут некалі сям'я арандатара. А як толькі мой бацька заключыў дагавор на арэнду фальварка, то Лычкоўскі аддаў тую хатку нам. І я тут нарадзіўся, тут падрастаў. Разабралі яе пад час нямецкай акупацыі.

— Што расло поруч з гэтай хаткай, пад самымі вокнамі, што магло быць навідавоку ў Максіма? Менавіта ж у ёй, як кажуць, і жыў паэт?

— Пад самым акном расла вялікая груша. Пладзіла штогод і шмат. Зваліцца грушынка на зямлю і рассыплецца. У нас іх «бэрамі» называюць, вельмі сакавітыя і смачныя. Працягнеш з акна руку, дык рві і смакуй. Груша тая была вельмі старая, і зразумела, што паэт яе не толькі бачыў, але ў ліпені мог і паспрабаваць гэты ранні плод.

Гаспадар падвёў бліжэй да выступу зямлі. Усё ўжо замуравела, след слабаваты.

— Калі знікла хатка?

— Здарылася гэта ў 1943 годзе, ужо пасля смерці Ядвігі Русецкай-Лычкоўскай. Майго бацьку і брата немцы схапілі і павезлі ў Мінск. Бацька там і памёр, брат вырабіўся, але ўсё-такі пазней загінуў. Я быў сувязным партызанскай брыгады «Штурмавая», у атрадзе «Шторм». Сям'я наша пакінула Ракуцёўшчыну. Тым жа годам за Касцюшкамі немцы ўзводзілі бункер і забіралі тыя будыніны, дзе гаспадара не было. Па бярвенцу знялі тую хатку арандатара. Разабралі і завезлі туды моцны свіран Лычкоўскіх. За малым справа не дайшла і да гэтай хаты. Ужо вокны і дзверы выдзерлі. Нешта прыпынілася. А ўжо як аціхлі тут баі, пайшло мірнае жыццё, я вярнуўся дамоў. Людзі знеслі назад і дзверы, і вокны...

— Ці быў ваш бацька тым летам 1911 года ў Ракуцёўшчыне?

— Не. Ён арандаваў участак зямлі ў Красным, у пана Сніткі. Дакладней будзе — мой дзед Паўлюк меў арэнду. Жыў ён тады ў тым «доме Напалеона», самай прыкметнай будыніне ў наваколлі.

— Колькі дзесяцін зямлі было ў таго ракуцёўскага гаспадара?

— Дваццаць дзве — дваццаць тры дзесяціны. Так, здаецца, і арэндны дакумент тады складаўся.

Зноў гаспадар паказвае абрысы старой сядзібы, потым спускаемся з ім да студні пад высачэзнай ліпай, а яшчэ ніжэй, сярод маладой травы, лёгка заўважыць невялічкі зруб, што ахоўвае крынічку. Тут без асаблівых змен, прыкладна так і выглядаў рэльеф мясцовасці ў часы Багдановіча. Крынічка, выбіўшыся з-пад гары, пятляе сярод гушчару альшэўніка і лазы, набываючы абрысы рачулкі. Хочацца падзякаваць ракуцёўцам, што здаўна засцерагаюць крынічку ад засыхання і забруджвання. Часта і цяпер п'юць яе сцюдзёную ваду.

Цікаўны чытач запытае: дык што, тут нічога не змянілася? Не. На жаль, няма даўнейшага пруда, ці, дакладней, сажалкі, што была ў канцы саду, але з'явіўся новы, які напаўняе ўсё тая ж магутная вададайная крыніца. Кажуць, крынічак у той ваколіцы біла шмат, але страцілі сілу і замерлі. Страх агортвае, а раптам і гэтая... Будзем верыць у нераўнадушнасць вяскоўцаў.

Каб не апусцеў краявід, Уладзімір Грышэль пасадзіў чародку маладых клёнікаў. Не бяднее ніва жыцця, хоць і маладога гаспадара можна так назваць толькі ў параўнанні з ранейшымі. Партызаніў у навакольных лясах, потым прайшоў вогненнымі дарогамі на захад. З таго пекла вайны выйшаў інвалідам. Мае ўзнагароды.

— Колькі буду жыць, буду даглядаць гэтую сядзібу,— сказаў на развітанне Уладзімір Андрэевіч.— Хацелася б, каб тут, як гэта было даўней, рос вялікі бор.

Бацька Уладзіміра Андрэевіча — Андрэй Паўлавіч Грышэль (1888—1944) набыў некалі гэты фальварак на арэндных пачатках. Паколькі ў прыстарэлых Лычкоўскіх дзяцей не было, то права распараджацца ракуцёўскай уласнасцю было дадзена іх пляменніку Антону Іванавічу Луцкевічу. Ён і заключыў кантракт з Андрэем Грышалём. Пасля смерці Вацлава Лычкоўскага засталася яго сястра Ядвіга Русецкая, якая жыла да самай смерці ў хаце ўжо новага гаспадара.

Па-беларуску Андрэй Грышэль перапісваўся з Антонам Луцкевічам. Грышэль перасцерагаў спадчынніка, што «лезуць у Ракуцёўшчыну розныя арандатары», і таму прасіў яго прыехаць з Вільні, каб на месцы аформіць усе дакументы на прыналежную па закону А. Грышалю частку фальварка, бо яна можа апынуцца ў руках суседа Таргонскага [7]. У Ядвігі Русецкай былі свае клопаты, і яна пісала лісты да А. І. Луцкевіча, каб таксама не аказацца «на бабах», а быць раўнапраўнай гаспадыняй.

## Апошняе спатканне з дзедам Вінцэсем

Пасля першай сустрэчы з равеснікам Максіма прайшоў нейкі час. Звестак у мяне стала болей, але ж і пытанняў назбіралася не менш. Зразумела, што аднаму чалавеку не пад сілу ўсё ведаць, але пакарыстацца жыццёвым запасам паважанага Вікенція Мікітавіча Есьмановіча проста неабходна. Зноў еду ў Ракуцёўшчыну.

Сышліся ўжо як даўнія знаёмыя і доўга таманілі пра мясцовую старасветчыну. Пасля па маёй парадзе тут пабываў паэт Алесь Бачыла, які працаваў над лібрэта «Зоркі Венеры», а таксама над кнігай «Сцежкамі Максіма».

Многае выпала з памяці і дзеда Вінцэся. Што ж тут зробіш? Не вёў жа ён дзённікаў ці сямейнай хронікі. Такое не для сялян. Многія дэталі побыту Максіма маглі быць занатаваны якраз у дзённіках ці пісьмах паэта да бацькі. Але ж дзе яно ўсё падзявалася?

Разважаем са старым — чым мог сюды прыехаць Максім Багдановіч? Сышліся на адным варыянце: з Вільні да станцыі Уша мог ён ехаць толькі цягніком, а ўжо тут і пехатою недалёка.

— Што змянілася ў вашай вёсцы за гэтыя дзесяткі гадоў з таго часу, як тут жыў Максім?

— Змены ёсць, і немалыя, можа, яны не такія вялікія, не кідкія ў вочы, як у Красным, усё ж ёсцека. Вядома, мы жывём воддаль ад гасцінца, дык у нас заўсёды было трохі зацішней. Ды і да ўсяго новага не мы першыя кідаліся. Усё гэта пазней да нас даходзіла. А пад час войнаў дык і ў нашым «зацішку» добра-такі грымела.

— А сама прырода змянілася?

— Шчэ і як. Раней, бывала, выйдзеш з хаты, глянеш у бок Чысці, там быў інакшы выгляд: лес, кусты. Што маліны там было, а чарніц, брусніц, дурніц. А на журавіны — тут царства ягаднае. Гарні ды гарні. Там рос альшэўнік, арэшнік, а на вышэйшых месцах сасонкі ды елкі. Абапал Ракуцёўшчыну абступаў сасновы бор. Краса была...

— Дык хто ж вінаваты ў такім абыходжанні з прыродай?

— Найперш неразумнае начальства, ну і сам чалавек, што здзекаваўся з нашай красы. Не ўмее ён цаніць дабро. Нагналі ўсякіх машын, трактароў і спляжылі ўсю Чысць і давай агаляць тарфянішча, лезці ў зямлю глыбей і шырэй. А начальства ўсё падганяла: давай, давай. Збудавалі цэлы горад тарфянікаў, а торфу ўжо не стала. Дык куды спяшаліся? Кажуць, нешта другое прыдумаюць, абы людзі не брынгалі. Сабралі ж сюды з усяго свету, і школу рускую адчынілі, каб усякай нацыі дзеці вучыліся. А нашым дык і няма дзе на роднай вучыцца. Як бы на гэта паглядзеў Максім Багдановіч?

Крыўду і дакор старога няцяжка зразумець. З прыродай трэба жыць у згодзе, лічыцца з інтарэсамі краю. Сапраўды, гадоў трыццаць пяць назад заклалі амаль поруч з Ракуцёўшчынай і Касцюшкамі торфабрыкетны завод. Вывесілі плакат: «Торф датэрмінова!» Так і выбралі той дар прыроды «датэрмінова». А каб даць людзям занятак — каб яны не «брынгалі», як казаў дзед, узвялі домабудаўнічы камбінат.

— А што ж асталося з часоў Багдановіча? — яшчэ адно пытанне дзеду.

— Ёсцека вёска, рэчка, крыніца... Усё ж мы жывём. І дай Бог, каб не пераведуся наш род... Застаўся і той самы дом Лычкоўскага. Трохі яго перасыпалі маладзейшыя гаспадары. А ўсё ж гэта той самы дом і на тым самым месцы стаіць.

Падзякаваў я старому за цікавую гутарку, і ён ужо нялёгкай хадой пайшоў дамоў. Па-

глядзеў яму ўслед і падумаў: ён жа равеснік Багдановіча. Проста не верыцца, што такім вось дзедам мог быць і Максім. А мог жа... Але не, так не стала. Паэт застаўся маладым.

## І знікшы дзень вярнуўся...

Нехта мог бы сказаць: «Ці ёсць над чым перажываць, усё, або амаль усё, устаноўлена». Значыць, і пошукі можна спыніць. Не, якраз цяпер іх у самы раз і працягваць. На мой погляд, не адшукана яшчэ самае галоўнае — перапіска з бацькам, з сябрамі, якім Максім пасылаў лісты з Ракуцёўшчыны. Няўжо не засталося ніякіх слядоў? Лісты з вёскі сказалі б нам шмат аб чым, пра ўбачанае ў Красным, у Ракуцёўшчыне, пра наваколле. Нейкія Багдановічавы рукапісы, напрыклад, трымаў у сваёй калекцыі, як і шмат іншых беларускіх літаратурных помнікаў, Рамуальд Зямкевіч.

Услед за многімі літаратуразнаўцамі і я сцвярджаў, што ўсе музейныя зборы Р. Зямкевіча пайшлі прахам у час сумна вядомага варшаўскага пажару ў канцы вайны. Ды вось летам 1989 года прыязджаў з Беластока беларускі паэт Ян Чыквін і перадаў мне пісьмо ад Аляксандры Бергман, старэйшай шукальніцы нашых літаратурных і культурных скарбаў, даследчыцы гісторыі Заходняй Беларусі. Яна з затоеным спадзяваннем і даверам паведаміла, што, на думку прафесара беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта А. Яблонскай і іншых сведак, дом, дзе знаходзілася багатая калекцыя Рамуальда Аляксандравіча Зямке-

віча, не згарэў. А значыць, нельга цяпер сцвярджаць, што і сабраныя ім пісьменніцкія рукапісы зніклі бясследна. Ажыла надзея на новыя адкрыцці.

А хіба даследаваны ўсе асабістыя архівы тых дзеячаў нашай культуры, хто сустракаў Максіма Багдановіча ў Вільні, хто суправаджаў паэта ў Ракуцёўшчыну? Вядома ж, не. Адных смерць застала, як і самога Максіма, у разгар творчай дзейнасці, іншыя загінулі ў засценках сталінскіх апрычнікаў, трэціх узяла вайна і іншыя ліхалецці.

Здарыліся памылкі ў маіх ранніх публікацыях пра ракуцёўскія знаходкі. Напрыклад, у артыкуле «Тут гасціў Максім Багдановіч», змешчаным у газеце «Літаратура і мастацтва» ад 26 ліпеня 1966 года, я памылкова назваў прозвішча старажыла Вінцэся Есьмановіча, пра што мне, пры першым жа з'яўленні ў вёсцы, сказалі яго суседзі. Услед за мной гэтую ж памылку паўтарыў Алесь Бачыла, аб чым я шкадваў і прасіў прабачэння. Як важна ў такой сур'ёзнай справе быць дакладным.

Шмат зрабіла ў выяўленні новых матэрыялаў і вывучэнні спадчыны М. Багдановіча старэйшына беларускай бібліяграфіі Ніна Ватацы, але Ракуцёўшчына застаецца калі не «прагалам», то нейкай умоўнасцю. Мусім прызнацца, што у багдановічазнаўстве гэта самае слабое месца. І сёння нам усім разам трэба намагацца запоўніць гэты прагал канкрэтыкай літаратурных і жыццёвых фактаў.

Прыемна ўсведамляць, што з утварэннем літаратурнага музея Максіма Багдановіча ўдакладняць фактаграфію паэта ўзяліся навуковыя супрацоўнікі. Пашлі ім, Божа, плё-

ну! Сваё слова тут прамаўляе і наша творчая інтэлігенцыя. Кожны, ці амаль кожны, пісьменнік ці мастак, кампазітар ці кінарэжысёр дамалёўвае партрэт Максіма Багдановіча, чалавека Прадвесня.

Пры чарговай паездцы ў архівы Вільні я, без вялікіх спадзяванняў на поспех, вырашыў пагутарыць і з малодшым сынам знанага літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Антона Навіны — Лявонам Луцкевічам, інжынерам-энергетыкам. І цяпер у памяці гучыць такое чаканае:

— Я добра памятаю той дамок у Ракуцёўшчыне,— без запінкі адказаў Лявон.— Мой бацька не раз мяне браў з сабой у тую вёску. Бывала, з Валодзем Грышалём ўсе закуткі аббегаем...

Не прайшло і месяца, як Лявон Антонавіч зрабіў па памяці малюнак той хаткі арандатара, у якой і жыў Максім. Зрабіў ён своеасаблівы «трыпціх»: у блізкім плане, без дома Лычкоўскіх, тады з вышыні «птушынага палёту», але, напэўна, улавіў, што сядзіба будзе глядзецца кампазіцыйна больш выразней, калі гэтыя будыніны акажуцца на адным малюнку, і з'явіўся трэці варыянт ілюстрацыі. Паслаў свой твор усім тым сведкам, хто памятаў, хто бываў у Ракуцёўшчыне. Вядома ж, не падпісваў малюнка. Аднак усе старажылы адразу пазнавалі маленькую хатку арандатара і фальварковы дом самога гаспадара і без вялікіх разыходжанняў называлі: «Гэта ж сядзіба Лычкоўскага ў Ракуцёўшчыне».

Так адноўлена была памяць забытай літаратурнай мясціны. Дарэчы, сам жа Лявон Антонавіч перафатаграфаваў свой малюнак.

Упершыню я змясціў яго ў брашуры «У родным краі», якая выйшла ў 1983 годзе [8].

Браты Луцкевічы абмалявалі партрэт іхняга крэўнага — Вацлава Лычкоўскага. Цікава, што іх расказ пра гаспадара фальварка сыходзіўся з расказам Вінцэся і Александрыны Есьмановічаў ды і іншых старажылаў Ракуцёўшчыны. Натуральна, што Максім часцей за ўсё сустракаўся і гаварыў у вёсцы з гаспадаром дома, а таму яго партрэт варты ўвагі. Спяшаюся на сустрэчу са сваімі знаёмымі — Есьмановічамі.

Заўсёды пачцівы Вікенцій Мікітавіч Есьмановіч (ён памёр у 1979 г.— *Г. К.*) знаходзіў разумнае і добрае слова павагі да памяці Вацлава Лычкоўскага, пра якога грэшна было і сказаць што-небудзь благое, бо меў ён добрую душу і спагаду да людзей.

— Як ён размаўляў з людзьмі, з суседзямі?

— Па-тутэйшаму, па-беларуску,— адказаў стары ракуцёвец.

— Ці былі ў яго сябры сярод аднавяскоўцаў?

— Гэта мне цяжка сказаць, але ад сваіх людзей ён нос не адварочваў, ценіў у чалавеку гаспадарлівасць. Былі шляхцюкі, што брыдзіліся свайго, але пра Лычкоўскага гэтага не скажаш. Да яго хінуліся людзі, прыязджалі госці з Вільні, Менска, Пецярбурга.

Вацлаў Эмярыкавіч спагадліва адносіўся і да сваіх пляменнікаў Івана і Антона Луцкевічаў, ведаў іх цяжкасці ў выдавецкай справе. Маці братоў Луцкевічаў Соф'я Эмярыкаўна была роднай сястрой Лычкоўскага, яна, можна сказаць, адна (муж яе памёр у 1895 г.— *Г. К.*) выгадавала і вывучыла сыноў і дачку. Стары

Лычкоўскі цаніў высакароднасць памкненняў сваіх пляменнікаў і па магчымасці спрыяў ім. Не выключана, што нейкія субсідыі маладыя грамадскія дзеячы маглі атрымаць і ад яго, хоць дзядзька не быў вялікім багацеем. Не адмовіў стары Лычкоўскі сваім пляменнікам і прыняць Максіма на той памятны летні адпачынак.

Хто ж ён, гэты ракуцёўскі гаспадар?

У 1911 годзе Вацлаву Лычкоўскаму хіба што толькі паўсотні мінула. Ён жа паважаўся за старэйшага. Адзінокі, без уласнай сям'і, жыў толькі з сястрой Ядвігай Русецкай, лёс мужа якой невядомы. Сярэдняя сястра Соф'я ўжо даўно была замужам за Іванам Якімавічам Луцкевічам. Старэйшы брат для сясцёр застаўся аўтарытэтам назаўсёды. Гэта, зрэшты, адчувалі і яго пляменнікі Іван і Антон.

Лычкоўскія належалі да не вельмі, можа, старога, аднак даволі ўстаялага ў сваіх традыцыях беларускага шляхецкага роду, першыя звесткі пра які сустракаем у пісьмовых крыніцах XVII стагоддзя. Іх родавым уладаннем была Грабёнка, што на Ігуменшчыне. На працягу гэтых больш чым двухсот гадоў Лычкоўскія былі пакрэўлены з даволі вядомымі родамі Корсакаў, Шэметаў, Свентаржэцкіх і іншымі. У выніку розных сямейных падзелаў гаспадарка драбілася, і бацька Вацлава — Эмярык Антонавіч Лычкоўскі ўжо хадзіў у «арандатарах». У гэтай сям'і былі героі вайны 1812 года. Адзін з Лычкоўскіх быў удастоены ваенных узнагарод за крымскія баталіі 1854—1856 гадоў. Не выключана, што паўстанцкі кліч 1863 года таксама быў пачуты ў сям'і Лычкоўскіх.

З разрослай сям'і, як гэта часта бывала, малодшыя сыны адыходзілі з бацькавай сядзібы і заводзілі сабе гаспадарку ў іншым месцы. Так зрабіў і Эмярык Лычкоўскі. Ён прыдбаў кавалак някепскай зямлі з фальваркам у Ракуцёўшчыне.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Ленінградзе не адзін раз выручаў даследчыкаў у высвятленні самых розных акалічнасцяў, падзей нават у такіх маленькіх вёсачках, як Ракуцёўшчына. Пераступіў і я парог знаёмага архіва, каб адшукаць «іголачку ў стозе» тысяч спраў іншых вёсачак і гарадоў. У фондзе Галоўнай выкупной установы адшукалася інфармацыя пра ранейшых уласнікаў ракуцёўскага фальварка, што ўладалі ім да Лычкоўскіх. У дакуменце на імя Ф. І. Шыманскага сказана, што гэтая сядзіба ў 1866—1867 гадах належала менавіта яму. Потым адбыўся нейкі паварот у лёсе гаспадара, і новым уладальнікам стаў М. А. Стацэвіч. Але і ў спадкаемца не ўсё ішло гладка, і ў 1872 годзе зямельны акт куплі-продажу афармляўся ўжо на імя Эмярыка Антонавіча Лычкоўскага. Сын Вацлаў меў 22—23 дзесяціны зямлі. Паводле «табелю аб рангах» такі маёмасны стан цягнуў толькі на аднадворца, і не вышэй. Аднак жа ракуцёўцы звалі яго ў вочы панам, а за вочы — «панічом», не наносячы гонару Вацлава Лычкоўскага ніякай крыўды.

# Яшчэ адна сведка

Час ужо такі далёкі, што, здавалася, і не знойдзецца ніводнай жывой душы, хто змог бы расказаць пра рэаліі знаходжання Максіма Багдановіча ў гэтай вёсачцы. Ды не. Знайшлася... Тыя мае першыя невялікія публікацыі пра Багдановіча ў Ракуцёўшчыне якімсьці чынам трапілі ў рукі Эміліі Іванаўны Шабуні — роднай сястры Івана і Антона Луцкевічаў, якая летам 1911 года разам са сваёй старэйшай дачкой Янінай прыязджала з Мінска сюды на адпачынак. Наездамі адзін ці два разы была тут і яе маці — Соф'я Эмярыкаўна.

Эмілія Іванаўна Шабуня (1886—1974) была замужам за інжынерам-мінчуком Аляксандрам Апалінаравічам Шабунем, беларускім інтэлігентам, які спрыяў адраджэнню нацыянальнай культуры, яго родны брат — адвакат Антон Апалінаравіч Шабуня быў сярод самых актыўных стваральнікаў у 1903 годзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а таксама заснавальнікам выдавецкага таварыства «Мінчук».

У гутарках з Максімам Багдановічам у Ракуцёўшчыне Эмілія Іванаўна не раз называла імёны блізкіх ёй братоў Шабуняў, а таксама расказвала пра Каруся Каганца, Аляксандра Уласава, Цётку, Алеся Гаруна, Уладзіміра Самойлу, Сяргея Скандракова, каго яна ведала асабіста. Для паэта гэта было, акрамя ўсяго, сведчанне назіральнай асобы, якая сама душой гарнулася да беларускага руху. Максім задуменна слухаў пра кожную асобу і радаваўся іх поспехам. Удакладняў, перапытваў і рабіў для сябе вывады.

Цікавіўся М. Багдановіч і бацькам Эміліі

Іванаўны, які выхаваў такіх адданых беларускай справе людзей, якімі былі яго сыны Іван і Антон. З вуснаў Эміліі, як можна даведацца з успамінаў яе дачкі Яніны, Максім пачуў наступнае. Іх бацька — Іван Якімавіч Луцкевіч (1831—1895) быў чалавекам, якога трэба залічыць да самых першых служачых Беларускай чыгункі. Ён працаваў у Лібаве, Шаўлях, а незадоўга да смерці перабраўся ў Мінск і пасяліўся ў драўляным дамку свайго цесця Эмярыка Лычкоўскага, што стаяў па вуліцы Крашчэнскай, 27 (дарэчы, зараз тут парк Янкі Купалы, дзе стаіць музей народнага паэта.— *Г. К.*).

Максім быў уражаны ратнымі подзвігамі штабс-капітана рускай арміі І. Я. Луцкевіча пад Севастопалем у час Крымскай вайны, які вярнуўся дамоў з баявымі ўзнагародамі.

Эмілія Іванаўна расказвала Багдановічу, як бацька паступова пранікся ідэямі дэмакратызацыі грамадскага ладу, з пагардай глядзеў на прыгонніцтва. І невыпадкова малады энергічны штабс-капітан стаў у шэрагі інсургентаў у час паўстання 1863—1864 гадоў. Яго атрад уступіў у адкрытую бойку з царскімі войскамі ў лесе пад Мінскам.

— А дзе гэта пад Мінскам? — зацікавіўся паэт.

— Сёння гэта ўжо новы раён Мінска, там зараз чыгуначны вакзал,— адказала Эмілія. — А вы ведаеце, што мой бацька сустракаўся з Вінцэсем Дуніным-Марцінкевічам?

— Цікава, раскажыце.

— Было гэта ў Тарасевічах, што ў 25-ці вярстах ад Бабруйска. Сабралася шмат людзей на святкаванне Спаса. Завітаў туды і наш вя-

домы пісьменнік. Так выпадак звёў яго з маім бацькам. Ён зрабіў на Дуніна-Марцінкевіча добрае ўражанне. Паэт прысвяціў Івану Якімавічу Луцкевічу верш «Заўтра Спаса, кажуць людзе» [9]. Хоць сустрэча адбылася ў 1867 годзе, але верш, напісаны праз год, з'явіўся на старонках «Минского листка» ў 1902 годзе. Рукапіс твора быў у майго бацькі, а другі аўтограф В. Дунін-Марцінкевіч падараваў гаспадару маёнтка пану Ксаверыю Вайніловічу, якому належалі як Тарасевічы, так і Карытна. Пад перапісаным ад рукі вершам сваё прозвішча паэт не паставіў, напэўна, палічыў, што блізкія яму людзі і так будуць ведаць, чый твор. Дарэчы, Ксаверый Вайніловіч быў вялікім аматарам беларускай культуры. І каб арыгінал верша не страціўся, пан Вайніловіч перадаў асабіста ў калекцыю Рамуальда Зямкевіча.

— Вы не прыпомніце радкі верша, што прысвячаліся Івану Якімавічу? — папрасіў Багдановіч.

— Калі ласка, мы ўсе яго ведалі.

Заўтра Спаса, кажуць людзе,
У Тарасевічах кірмаш будзе:
Трэба ехаць, падзівіцца;
Потым шмыгнуць да двара
Павіншаваць Гаспадара.
— Паночку Яночку! Дай табе Божэ
За год даждаці святога Спаса,
Каб як лес расло ўсякае збожжа,
Дык будуць пірагі і густая каша;
Не купляй мяса, а з сваей гавяды
Здаровай, маладой і тлустай, як лані,
Кармі сямейку, гасцей і чэляды,
Дык ужо ж тады будзеш панам на ўсе сані!
У бочках, яндоўках і ўсякай пасудзе,
Каб не выбіралася гарэлка, мёд, піва.
Няхай п'юць удоваль добры і злы людзі,
На завісь непрыяцелем і ўсім на дзіва.

Кінь жыцце бурлацкае, а пашукай жонкі
Маладой, прыгожай і любяшчай цябе,
Каб усе зайздросцілі і глыталі слінкі.
Тады будзеш шчасліў, жывучы як у небе.
А за такое, хоць дурное, маё павітанне
Дай чарку гарэлкі, ды палюбі шчыра,—
то з мяне і стане.

*5 серпня 1868 року,*
*Карытна*

Максім Багдановіч рассмяяўся.

— Ну дык жаніўся пасля гэтага верша Іван Якімавіч?

— Вядома ж, на маёй маме Соф'і Эмярыкаўне Лычкоўскай, гэта быў яго другі шлюб.

Пра ўсё гэта Эмілія Іванаўна расказвала ў сям'і, найперш сваёй старэйшай дачцэ Яніне. Э. І. Шабуня памерла ў 1974 годзе ў Нью-Йорку. Яна сапраўды была найбольш аўтарытэтнай сведкай ракуцёўскага жыцця паэта.

На сённяшні дзень з жывых сведкаў побыту Максіма ў Ракуцёўшчыне засталася толькі старэйшая дачка Эміліі Іванаўны — Яніна Аляксандраўна. Яна тады была маленькай дзяўчынкай. Адзінае, што яна памятае, як Максім часам браў яе на рукі, расказваў казкі, розныя здарэнні. Рабілі праходкі да сасновага бору. Вось чаму ўспаміны Яніны Аляксандраўны — гэта ўспаміны не столькі яе, колькі яе маці Эміліі Іванаўны.

Якраз з успамінаў Эміліі Іванаўны вядома, што Максім Багдановіч у Ракуцёўшчыне жыў асобна: у маленькай хатцы, дзе звычайна жыла прыслуга. І гэта было не жаданне Вацлава Лычкоўскага, а просьба самога Максіма, на якой ён настаяў. Есці збіраліся ў сядзібным доме гаспадара, дзе жылі госці з Мінска. На шпацыр выходзілі гуртам пад ве-

чар, калі сонца садзілася за зубчаты край бору. І за сталом, і на праходках Максім быў цікавым субяседнікам. Удзень жа ён гуляў адзін, заходзіў да сялян, вёў з імі нязмушаныя гаворкі, спачуваў іх жыццю. Для яго многае ўпершыню адкрывалася ў вясковым быце, і ён вечарам, на шпацыры, дзяліўся свімі ўражаннямі: то захапляўся спрытам тутэйшых руплíўцаў, то суперажываў нейкую бяду. Наталяўся музыкай народнай мовы.

Ну а паэзія, літаратура?.. Няўжо пра гэта не заводзілі гутаркі?

Эмілія Іванаўна прыпаміналa, што Максім у дыскусіях быў даволі гарачы і адстайваў свае погляды. Яна, як і шмат яе сучаснікаў, зачытвалася паэзіяй С. Надсана, аб чым і сказала Максіму. Ён тактоўна запярэчыў і пакрытыкаваў рускага паэта за лішняе захапленне эротыкай. У Багдановіча былі свае крытэрыі літаратуры, глыбіня мыслення маладога М. Багдановіча ўражвала многіх, хто з ім дыскусіраваў.

З таго далёкага лета Эмілія Іванаўна згадвала і такое. Хоць Максім і дваццаці гадоў не меў, але для паважнасці адпусціў бародку і выглядаў трохі старэй свайго юначага ўзросту. Запомніліся яго вельмі прыгожыя рукі. У манерах яго адчувалася культура гарадскога чалавека.

Тады ж Ядвіся трохі закахалася ў Максіма і раўнавала яго да Эміліі:

— Калі я яму прапаную шклянку гарбаты, ён не п'е, а калі ты — ніколі не адмаўляецца. Я ж так стараюся для яго, а ён зусім спакойна да гэтага адносіцца, толькі ветліва падзякуе...

А вось яшчэ адзін ліст з успамінам пра мінулае. Яго прыслала мне зусім нядаўна малодшая дачка Эміліі Іванаўны — Марыя Аляксандраўна Шабуня-Чапялёва, якая жыве зараз у Ленінградзе. Яна таксама піша, як маці расказвала пра Ракуцёўшчыну, пра сустрэчу з Максімам Багдановічам. Адзін з яркіх штрыхоў гэтых успамінаў — любоў паэта да дзяцей. Найбольшай забаўлянкай таго лета была маленькая Янінка. Яе дзіцячыя штомінутныя «адкрыцці» прыемна цешылі паэта. Ён смяяўся, а часам і паўтараў за ёю нейкія смешныя слоўцы, мог падоўгу слухаць маленькую шчабятушку.

Эмілія Іванаўна прыпаміналa, з якім унутраным хваляваннем Максім чакаў яе ацэнкі, калі чытаў свае вершы, давяраючы яе слыху і густу. Асабліва клапаціўся ён пра дакладнасць беларускага слова і не раз пытаўся: «Ці так?» Максім радаваўся добраму выпадку, які звёў яго з добрай дарадчыцай. І як меркаваў сам паэт, Эмілія Іванаўна добра ведала літаратуру і любіла яе.

У 30-я гады сям'я Эміліі Іванаўны жыла па суседстве з Янкам Купалам. На яе вачах працякала жыццё другога беларускага паэта. Менавіта яе брат — урач Сцяпан Іванавіч Луцкевіч (1887—1947) першым прыбег на дапамогу акрываўленаму Купалу, калі той, даведзены да адчаю, у роспачы замахнуўся на ўласнае жыццё. Доктар-сусед прыбег на кліч Уладзіславы Францаўны і зрабіў усё, што мог, а потым адправіў Янку Купалу ў бальніцу.

Рэзкі паварот у лёсе сям'і Шабуняў зрабіла нямецка-фашысцкая акупацыя. Эмілія Іва-

наўна з дачкой і ўнучкай была вывезена ў Германію. Памятаючы сталінскі ўрок 1937 года, сям'я не адважылася вяртацца ў Мінск. Вынеслі нямала пакут, пакуль не пераехалі ў ЗША. Жаданне ж сустрэцца з радзімай ніколі не згасала.

Няма ў жывых самой Эміліі Іванаўны, пастарэлі яе дочкі Яніна і Марыя, але вялікая любоў да Беларусі перадавалася з пакалення ў пакаленне ў гэтай сям'і і адгукнулася ў творчасці вельмі лірычнага і таленавітага спевака Данчыка — Багдана Андрусішына, праўнука Эміліі Іванаўны.

Багдан, якога ў сям'і пяшчотна клікалі Данчыкам, яшчэ ў 1977 годзе прыемна здзівіў аматараў беларускай музыкі першай грамплаcцінкай «Данчык пяе «Беларусачку». Спеваку было тады толькі дзевятнаццаць гадоў, ён вучыўся на факультэце журналістыкі і славянскіх моў. У 1981 годзе Данчык закончыў універсітэт і, зарабіўшы трохі грошай, адправіўся ў падарожжа па Еўропе. Як заўсёды — з гітараю. Пабываў у Італіі, Францыі, Германіі, Швецыі. Асабліва яму запомнілася сустрэча з Польшчай, выступленне перад беларускімі слухачамі Беласточчыны. Потым з'явілася другая пласцінка спевака — «Я ад вас далёка». І вось у 1989 годзе была выпушчана яшчэ адна грампласцінка — «Мы адной табе належым». Гэтую «кружэлку» (так называе яе Данчык) ён рыхтаваў разам з заслужаным артыстам БССР, салістам Беларускага радыё і тэлебачання Лявонам Барткевічам.

Сваё захапленне беларускай песняй Данчык тлумачыць наступным: «Яны самі [маці Юлія і бабця Яніна.— *Г. К.*] патрыёты сваёй

Бацькаўшчыны і выхоўвалі мяне і майго брата ў любові і пашане да таго, ад чаго мы паходзім. Напрыклад, дома мы заўсёды гаварылі толькі па-нашаму; вывучалі гісторыю, геаграфію, культуру Беларусі; часта сустракаліся з нашымі людзьмі, і ад малога актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці (беларуская школа, беларускі тэатр і г. д.). Дык, нягледзячы на тое, што я нарадзіўся ў Амерыцы, Беларусь была для мяне роднай з пялёнак» [10].

Восенню 1989 года Данчык разам са сваёй маці Юліяй прыляцеў з далёкай Амерыкі і ўпершыню ступіў на зямлю сваіх продкаў. Маці павяла сына ў парк Янкі Купалы, дзе да вайны стаяў іхні дом, дзе ўсё напамінала пра людзей блізкіх, дарагіх.

Спявак даў некалькі канцэртаў, і кожны з іх праходзіў з поўным аншлагам. Прыгожы голас, шчырасць выканання, выразнасць інтанацыі зрабілі яго выступленні непаўторнымі. Светлы тэнар беларускага спевака з-за акіяна пачула і палюбіла моладзь Беларусі. Сярод яго рэпертуару самая шчымлівая песня «Зорка Венера». Такая ўжо повязь часоў: ад юнага Максіма да юнага Данчыка.

## Рэха лета 1911 года

Калі б не слабое здароўе, Максім той год пражыў бы не ў Яраслаўлі, а ў Пецярбургу, куды па рэкамендацыі «Нашай Нівы» павінен быў адправіцца для спецыялізацыі па беларускай філалогіі. Але выпала ехаць туды Браніславу Тарашкевічу, які заняўся распрацоўкай першай «Беларускай граматыкі для школ».

Максім Багдановіч споўніў да канца іншую ролю — аднаго з вядучых паэтаў і крытыкаў нашай літаратуры. Ён пільна сачыў за ўсім, што адбывалася на Беларусі. Можна зразумець стан яго душы, калі паэт чытаў зварот студэнцкай моладзі «Да беларусаў», які быў апублікаваны ў пецярбургскай газеце і разасланы па губеранскіх цэнтрах Беларусі [11]. Гэты ліст і зараз хвалюе сваёй заклапочанасцю будчыняй беларускага народа.

«Усім, хто трошачкі ведае беларускі народ (а яго каля дзесяці мільёнаў), вядома, як неабходна для яго друкаванае слова на роднай мове. Жменька людзей, жадаючы дапамагчы гэтай справе сваімі сіламі і сродкамі, арганізавала таварыства, статут якога апублікаваны ніжэй. У Пецярбургу знойдуцца, верагодна, інтэлігентныя людзі з Беларусі, якія не адносуцца з пагардай да гэтай ідэі і не забудуць беларуса і яго «мужыцкую мову». Жадаючыя дапамагчы гэтай справе сваёй працай або членскім узносам, могуць знаходзіцца ў ліку членаў таварыства. Зараз легальным шляхам трэба сабраць і аб'яднаць шмат раскіданых культурных сіл. Няхай гэтыя сілы і паслужаць для беларускага народа.

Мэты, якіх дабіваецца таварыства, культурныя: 1) Таварыства арганізуецца з задачай выдання і распаўсюджвання сярод беларусаў кніг на беларускай мове; 2) Таварыства гэта будзе называцца «Загляне сонца і ў наша ваконца»; 3) Жадаючыя ўступіць у склад членаў суполкі павінны ўнесці пай — 10 рублёў; 4) Кожны член таварыства карыстаецца правам голасу і г. д.

Беларускае таварыства пакуль што паспе-

ла выдаць: беларускую азбуку, элементарныя кнігі для адукацыі дзяцей грамаце, а таксама творы беларускіх паэтаў: «Дудка беларуская», зборнік вершаў Мацея Бурачка, «Смык беларускі» і «Скрыпка» — зборнік вершаў яго ж. Культурнае выданне пра з'явы прыроды «Гутарка аб небе і зямлі», «Жалейка» Янкі Купалы і інш.

Больш падрабязныя звесткі пра таварыства можна даведацца па адрасу: Пецярбург, Васільеўскі Востраў, 4 лінія, д. 45, кв. 16».

Дакумент, які мы ўзнавілі для сучаснага чытача, быў шырока распаўсюджаны сярод беларускай інтэлігенцыі, ён хваляваў і душу Максіма Багдановіча.

Вернемся ўсё ж да галоўнай тэмы нашай гаворкі — падарожжа паэта ў 1911 годзе на Беларусь. Вось як пісаў пра гэта бацька Максіма Адам Ягоравіч: «Паездкай ён быў вельмі задаволены, і, вядома, яна была надзвычай плённай для яго паэтычнай дзейнасці. Калі вярнуўся, ён шмат расказваў пра падзвіжнікаў беларускай літаратуры, аб няшчасцях, якія яны перажываюць, аб недахопах сродкаў, аб бескарыслівым служэнні роднаму слову шматлікіх работнікаў, галоўным чынам з асяроддзя настаўнікаў... пра Вільню і яе даўніну і пра тое ўражанне, якое яна зрабіла на яго, пра віленскія калекцыі слуцкіх паясоў, якія ён там бачыў і якія, напэўна, натхнілі яго на напісанне «Слуцкіх ткачых».

А вось што пісаў непасрэдны сведка той падзеі Вацлаў Ластоўскі: «Праездам у вёску Максім Багдановіч прабыў двое сутак у Вільні. Абедзве ночы начаваў у рэдакцыі «Нашай Нівы», якая тады мясцілася на Завальнай,

№ 7, у тым самым памяшканні, дзе цяпер [у 1926 г.— *Г. К.*] Беларуская кнігарня. Абедзве ночы я правёў разам з ім, і кожны раз гутаркі нашы зацягваліся ад змяркання да світання...»

Перапынім на хвіліначку расказ В. Ластоўскага і нагадаем сучаснаму чытачу імя гэтага культурнага дзеяча і змагара за беларускую справу, з кім так зблізіўся Максім Багдановіч летам 1911 года і з кім яму хацелася гаварыць ночы навылёт.

Вацлаў Юсцінавіч Ластоўскі (1883 — каля 1938) паходзіў з паўночна-заходняй Беларусі. Веды здабываў самаадукацыяй, калі не лічыць Пагосцкай пачатковай школы. Жыў і працаваў у Пецярбургу, Рызе, Вільні. У 1903 годзе ажаніўся з Марыяй Іванаўскайтэ (1872—1957), якая стала вядомай літоўскай пісьменніцай, яна са сваёй сястрой друкавалася пад агульным псеўданімам Лаздзіну Пяледа. Вацлаў Ластоўскі браў удзел у Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе. Увогуле, ён быў актыўным удзельнікам беларускага грамадскага і культурнага руху. Яго захопленасць нацыянальнымі праблемамі не магла быць не заўважана выдаўцамі «Нашай Нівы», і В. Ластоўскі стаў сакратаром рэдакцыі гэтай газеты, а таксама загадчыкам першай Беларускай кнігарні ў Вільні. Ён друкаваў у «Нашай Ніве» і іншых выданнях рэцэнзіі, апавяданні, артыкулы, матэрыялы па гісторыі Беларусі і нават вершы. Вацлаў Ластоўскі ўпершыню на беларускай мове выдаў у 1910 годзе «Кароткую гісторыю Беларусі», а праз пятнаццаць гадоў завяршыў сваю буйнейшую працу «Гісторыя беларускае (крыўскае) кнігі» (Коўна, 1926).

Таму зразумела, якую цікавасць выклікала ў Максіма сустрэча з Ластоўскім.

«Багдановіч дзяліўся сваімі думкамі і з захапленнем пераймаў ад мяне мае ведамасці з беларускай (крыўскай) этнаграфіі і гісторыі, якія я пераказваў яму як умеў, дэманструючы быўшыя пры гэтым калекцыі Івана Луцкевіча. Асабліва глыбокае ўражанне на М. Багдановіча зрабілі рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а таксама слуцкія паясы, якія ён па некалькі разоў глядзеў.

— Гэта ёсць фундамент нашага адраджэння. Гэта і за тысячу гадоў будзе сведчыць аб нас!!! — казаў Максім Багдановіч аб помніках нашай старасвецкай культуры...» [12].

Сапраўды, беларускага паэта моцна ўразіла старажытная Вільня, дала вельмі шмат яго сэрцу і розуму. Кожная вулачка і нават дом — гісторыя. Знаёміў госця з горадам Вацлаў Ластоўскі, а найбольш падрабязна даводзіў Максіму пра беларускія памятныя мясціны Іван Іванавіч Луцкевіч (1881—1919), чалавек выключных ведаў і высокай культуры. Археолаг, этнограф, археограф, фалькларыст, музеезнавец.

Вандруючы па горадзе, яны вельмі часта чулі беларускую гаворку. Антон Луцкевіч растлумачыў, што ў Вільні здаўна жыве шмат беларусаў, у некалькі разоў больш, чым літоўцаў, што выразна паказаў перапіс насельніцтва 1897 года. Жывуць тут таксама палякі, яўрэі, рускія, караімы. Вакол жа Вільні вёска размаўляе ў асноўным на беларускай мове. Адтуль нямала пішуць у «Нашу Ніву». У Вільні яшчэ з часоў Скарыны жылі і жывуць дзеячы беларускай культуры.

— Дык, можа, па гэтай прычыне тут выдаецца «Наша Ніва», а вы збіраеце беларускі музей? — спытаўся Максім.

— Так,— пацвердзіў Іван Луцкевіч,— і мой папярэднік — Яўстафій Тышкевіч закладваў свой музей, па сутнасці беларускі, таксама ў Вільні.

У час вандровак па горадзе Іван Луцкевіч, хутчэй за ўсё, падрабязна расказваў Багдановічу пра драматычны лёс Віленскага музея старажытнасцяў. Яго стваральнік — Яўстафій Піевіч Тышкевіч (1814—1873), добра павандраваўшы па свеце і наглядзеўшыся на багатыя музеі Даніі, Швецыі, засяродзіўся на ідэі стварэння музея і для свайго народа. Яшчэ ў 1851 годзе ён распрацаваў праект гэтай культурнай установы. Не раз ездзіў у Пецярбург, прасіў уплывовых асоб дапамагчы даступіцца да цара і зацвердзіць праект музея і Археалагічнай камісіі пры ім. У Вільні катэгарычна выступаў супраць адраджэння беларускай культуры адзін з кіраўнікоў Віленскай вучэбнай акругі П. М. Бацюшкаў, брат вядомага рускага паэта. І толькі пасля смерці Мікалая I яго заступнік Аляксандр II зацвердзіў у 1855 годзе «Положение о музеуме древностей...».

Пасля афіцыйнага дазволу браты Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы пры самай актыўнай дапамозе Уладзіслава Сыракомлі, Адама Кіркора і іншых адкрылі Віленскі музей старажытнасцяў ужо ў 1856 годзе. Знайшлося нямала ахвяравальнікаў. Сваімі калекцыямі дзяліліся Адам Плятар, Канстанцін Тызенгаўз, Іосіф Жаба, Міхал Гамаліцкі. З усіх куткоў Беларусі слалі ў адрас новага музея самыя розныя матэрыялы: каменныя сякеры, нумі-

зматычныя знакі, манускрыпты, творы мастацтва і многае іншае. Да Археалагічнай камісіі хіліліся вучоныя. Пры іх удзеле арганізоўваліся экспедыцыі, чыталіся даклады і паведамленні.

Музей і Археалагічная камісія плённа працавалі да самага паўстання 1863 года. Культурная дзейнасць беларусаў была спынена жорсткай рукой дыктатара. Створаная генерал-губернатарам Мураўёвым камісія па рэвізіі музея ўзялася за работу. Кіраваў гэтай акцыяй А. Д. Сталыпін, бацька будучага старшыні Савета міністраў Пятра Сталыпіна. Многія экспанаты музея былі аб'яўлены «польскай інтрыгай» і адпраўлены ў Маскву. У гэтым жа музеі камісія параіла прадставіць: 1) «Живые свидетели искони присущей здешнему краю русской жизни», 2) «литовское начало отметить», 3) «польские материалы поместить в отдельном зале до дальнейших распоряжений» [13].

Пасля паўстання прайшло нямала часу, але новыя дзеячы беларускай культуры адчувалі на сабе той жа вялікадзяржаўны ўціск. Не раз задумваўся Іван Луцкевіч над лёсам сваіх рэдкасцяў, здабытых у доўгіх вандроўках па Беларусі. На адным энтузіязме ён сабраў унікальную калекцыю для будучага Віленскага беларускага музея. Ведаў цану і выхаваўчы эфект спадчыны свайго народа. У яго калекцыі захоўваліся слуцкія паясы, народныя строі, музычныя інструменты, нумізматычныя скарбы, рукапісныя кнігі, у тым ліку манускрыпты гістарычнай важнасці, зброя і аблачэнні даўніх воінаў, рэдкія экспанаты з галіны археалогіі, этнаграфіі, гісторыі, літаратуры, палеа-

графіі і іншыя помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі.

Не маючы падтрымкі з боку афіцыйных улад, І. Луцкевіч так і не дабіўся асобнага памяшкання пад музей. Матэрыялы часткова былі выстаўлены ў рэдакцыі «Нашай Нівы», рэшта тулілася на кватэры збіральніка, чакаючы лепшага часу. Ужо пасля смерці І. Луцкевіча стараннямі яго брата Антона музей быў адчынены пры Віленскай беларускай гімназіі ў 1921 годзе.

Летам 1911 года зборы ішлі поўным ходам, і Максім Багдановіч, па словах бацькі, быў уражаны гэтым бескарыслівым служэннем беларускаму народу. Ён упершыню ў рэдакцыі «Нашай Нівы» ўвачавідкі пераканаўся ў адметнасці і багацці роднай культуры. Гутаркі з нашаніўцамі, сустрэчы з жывым жыццём Вільні паспрыялі нараджэнню такіх вершаў М. Багдановіча, як «Старая Беларусь», «Места», «Перапісчык», «Слуцкія ткачыхі», «Летапісец», «Кніга», «Безнадзейнасць», што па свежых уражаннях пісаліся ўжо ў Ракуцёўшчыне.

На гістарызм гэтых вершаў звярнулі ўвагу У. Пічэта, М. Улашчык, М. Ермаловіч і іншыя. У даследаванні «Звенні» (1976) беларускі крытык Р. Бярозкін дакладна вызначыў багдановічаўскае разуменне гісторыі: «Кожная нацыянальная паэзія раней ці пазней ажыццяўляе пераход рамантычна-інтуітыўных «прагляданаў» гісторыі, ад пошукаў аналогій у мінулым да сапраўды рэалістычнага гістарызму. У беларускай паэзіі гэты пераход звязаны перш-наперш з імем Максіма Багдановіча, аўтара твораў накшталт «Безнадзейнасці» [14].

Зноў даверымся памяці В. Ластоўскага. «Максім Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэння, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народа, чым мы, працаўнікі, згрупаваліся ў цэнтры. Гэтыя думкі аб адраджэнні і былі галоўнай тэмай нашых начных бясед.

Мыслі яго былі больш-менш гэткімі. Адзіная аснова нашага адраджэння — сялянства. Усё, што па-за сялянствам,— чужое і варожае адраджэнню. Мозгам кожнай нацыі ёсць яго інтэлігенцыя,— вось першым і найважнейшым нашым заданнем павінна быць узгадаванне інтэлігенцыі, выведзенай з сялянскіх мас. Максім Багдановіч верыў у інтэлект. Ён з запалам мроіў аб тым, каб з беларускай (крыўскай) інтэлігенцыі ўзгадаваць сапраўднага генія слова, які б паказаў свайму народу не толькі красу роднай мовы, але і даў бы творы з агульналюдскімі цэннасцямі, каб знанне творчасці нашага генія было абавязковым для кожнага культурнага чалавека ўсяго свету. Інтэлігенцыя з народа і сама ў сабе народная, яна будзе ў сябе ў сям'і гаварыць роднай мовай, будзе вучыць сваіх дзяцей дома спярша ў роднай мове, раней чым пасланць іх у чужую школу,— навучыць народ адносіцца з пашанай да яго пагарджанай усімі мовы; геніі ж слова павінны ўвекавечыць наша нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне са ўсімі іншымі культурнымі народамі свету.

Пераходзячы да тагачаснай беларускай (крыўскай) пісьменнасці, Максім Багдановіч казаў, што, нягледзячы на ўсю яе беднасць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэн-

насцяў. Край беларускі — лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія — стэп, у нас наша стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая адметная краса, рытміка, адметны чар. Трэба іх падгледзіць, знайсці і вынесці на шырокі свет» [15].

Дапытлівы даследчык старажытнай гісторыі Беларусі М. Ермаловіч не абышоў увагай і Багдановічавай творчай спадчыны, якая аказала дабратворны ўплыў на ўвесь літаратурны працэс, у тым ліку і на зварот да асэнсавання мінулага нашага народа.

«Выдатнае веданне гісторыі Беларусі М. Багдановіч найперш выкарыстоўваў у барацьбе за пасяховае развіццё беларускай культуры, у палеміцы з тымі, хто імкнуўся закрэсліць беларусаў як народ. З аднаго боку, ён змагаўся супраць тых, хто выношваў планы апалячвання беларусаў-католікаў. З другога боку, ён гнеўна бічаваў тых, хто, не ведаючы канкрэтных умоў, браўся «выратоўваць» беларусаў ад паланізацыі русіфікацыяй... Максім Багдановіч лічыў, што самай надзейнай гарантыяй ад гэтай пагрозы можа быць толькі свабоднае развіццё беларускай мовы, асабліва яе ўжыванне ў сельскіх дзяржаўных установах і вывучэнне ў школах... М. Багдановіч глыбока разумеў, што веданне народам сваёй гераічнай гісторыі дазволіць яму хутчэй наблізіць светлую будучыню» [16].

Паэт верыў у развіццё беларускай культуры, верыў, што яна — «глыбока жыццёвая з'ява, якая знаходзіцца ў рэчышчы агульнаеўрапейскага прагрэсу». Гэтая багдановічаўская ідэя найбольш яскрава прагучала ў яго артыкулах: «На беларускія тэмы», «Беларус-

кае адраджэнне», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», «Аб веры нашых прашчураў», «За сто гадоў», «Аб гуманізме і неабачлівасці», «Хто мы такія?», «Славянскі свет» і іншыя. І ў гэтым таксама азваўся зарад творчай энергіі, які дала М. Багдановічу паездка на Беларусь.

Вядомы гісторык нашага часу М. М. Улашчык (1906—1986) адзначаў глыбокае разуменне М. Багдановічам значэння летапісных крыніц у справе абуджэння нацыянальнай свядомасці. Ён падкрэсліў, што паэт першым заўважыў: у беларусаў у XV—XVII стагоддзях было багатае і адметнае летапісанне, што якраз М. Багдановіч пазначыў Магілёў «як адзін з цэнтраў хроніка-летапіснай творчасці. Дакладнае веданне, надзіва тонкае адчуванне подыху мінулага свайго народа — вось што натхняла аўтара «Летапісца» [17].

## З болем пад захад жыцця ўспомніш пра гэтае ты...

У пэўнай меры праліваюць святло на сэнс паездкі паэта на Беларусь лісты яго бацькі да Антона Луцкевіча, да якога ён кожны раз звяртаўся як да «дарагога земляка». Гэтая перапіска, выяўленая намі ў архіўна-бібліятэчных сховішчах Вільнюса, даволі яскрава абмалёўвае тыя жыццёвыя ўмовы, у якіх знаходзіўся Максім Багдановіч.

Пасля смерці сына Адам Багдановіч дзякаваў Луцкевічу за другое выданне «Вянка», ажыццёўленае ў 1927 годзе, з прадмоваю А. Навіны. «Гэта трэба было зрабіць дзеля па-

мяці нябожчыка. Аддаваў ён непадзельна сваё харошанькае жыццё паэтычнаму служэнню сваёй Радзіме, свайму народу. Гэта было ахвяравальнае служэнне, род асуджанасці — і ў гэтай справе ён рэдкі прыклад: яго вершы — сапраўды выпакутаваныя вершы. Вядома, не ўсё з напісанага трапіла ў друк, але ўсё ж дастаткова поўна будзе ўяўляць кніга яго пакутаў. Наўрад ці дачакаюся паўторнага выдання... і таму радуюся, што нарэшце гэтае выданне ажыццявілася». І далей Адам Ягоравіч піша: «Хацелася б мне адказаць вам на роднай мове, якой я валодаю як трэба, але мяне абцяжарвае нязвыклая арфаграфія».

У наступным лісце да Антона Луцкевіча А. Я. Багдановіч расказвае, як ён дапамагаў (калі гэтае слова можна тут ужыць у прамым сэнсе) свайму сыну працаваць над мовай верша. «Я яму радзіў, дзе не хапала беларускага слова, запазычваць і ўсвойваць у беларускай мове расейскія словы, як больш блізкія і зразумелыя беларусам, а не хадзіць у пазычкі да чужога дзядзькі, як гэта робяць многія сучасныя беларускія пісьменнікі»[18].

Адам Ягоравіч Багдановіч (1862—1940), вучоны-этнограф, выхоўваўся ў зусім іншы час, чым пазнейшая беларуская інтэлігенцыя. Ён па-свойму разумеў цяжкасці маладой беларускай літаратуры і мовы. Яго папрокі беларускім пісьменнікам за ўжыванне нібыта штучных слоў «зусім» замест «саўсім», «вось» замест «вот» з'яўляюцца беспадстаўнымі. Ён называў гэта «засцянкоўшчынай». Таму Максім часцей за ўсё звяртаўся за парадамі да сваёй цёткі. Паэт добра ўсведамляў, што ідзе працэс шліфавання беларускай мовы, і быў пе-

ракананы, што трэба выкарыстоўваць і скарбы беларускага старадаўняга пісьменства, і жывую гаворку беларусаў. Не хапала ж яму самому толькі аднаго — беларускага асяроддзя, куды ён і імкнуўся.

Сёння цяжка сказаць, якое месца займаў Максім як паэт у сямейных клопатах і думках бацькі. Няма сумнення, што бліскучы матэматычны талент другога сына — Льва зачароўваў Адама Ягоравіча і ў яго свядомасці браў верх. У лісце да Кацярыны Паўлаўны Пешкавай ён так характарызуе сыноў: «Максім шмат чытае, Лёва ўвесь пагрузіўся ў матэматыку. У яго з чацвёртага класа выявіліся выключныя матэматычныя здольнасці, так што ў гэтых адносінах ён усіх здзівіць; ён яшчэ ў шостым класе пакончыў з гімназічным курсам самастойна і пайшоў далей. Рашае розныя тэарэмы і пасылае іх у матэматычны часопіс. Максім займаецца больш гуманітарнымі навукамі і піша беларускія вершы — піша прыгожа, не без таленту і нават лічыцца наватарам у беднай беларускай літаратуры, якая, як Лазар, пачынае ажываць. Лёва даволі ажыўлены і грубаваты, Максім — больш мяккі і жаноцкі. Абодва любімыя таварышамі, увогуле слаўныя хлопцы...» [19]

У лістах да Антона Луцкевіча часам чуюцца скептычныя ноткі ў адносінах да беларускай літаратуры, а значыць, і да заняткаў Максіма, але не будзем папракаць Адама Ягоравіча. Усё ж ранняя смерць Максіма, а таксама яго плённая літаратурная дзейнасць, адносіны да яе беларусаў прымусілі бацьку шмат у чым памяняць свае погляды.

Нялёгка было Адаму Ягоравічу,— ён пера-

жыў смерць васьмярых з дзесяці сваіх дзяцей.

Пры ўсёй драматычнасці жыцця бацька паэта знаходзіў час і сілы, каб сур'ёзна займацца беларусазнаўствам, у прыватнасці этнаграфіяй, фальклорам, мовазнаўствам. Даследаваннем духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў ён захапляўся даволі даўно, яшчэ з 80-х гадоў. Пазней ім былі напісаны капітальныя працы: «Язык земли. Образование водоречных имен и что от них происходит» (т. 1—2), «Этнический состав народов славянских и русских» (т. 1—2), «Этнический состав белорусского народа», «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк», «Про панщину» і іншыя, у якіх думкі пра Беларусь займалі не апошняе месца.

Маладосць Адама Багдановіча была звязана з рэвалюцыйным рухам на Беларусі, бо ён з'яўляўся адным з кіраўнікоў мінскіх народавольцаў. Будучы ў сваяцтве з Максімам Горкім, сябраваў з ім і Кацярынай Паўлаўнай Пешкавай, быў знаёмы з Галакціёнам Караленкам, Фёдарам Шаляпіным і іншымі вядомымі людзьмі свайго часу і пакінуў пра іх успаміны. Ён напісаў і такія працы, як «Революционное движение в Минске и губернии в 80-х и начале 90-х гг.», «К истории партии «Народной воли» в Минске и в Белоруссии, 1880—1882», «К вопросу про этнологию белорусского народа». Аб гэтым ён піша ў лісце да Антона Луцкевіча: «Ахоп шырокі. Я прыцягваю матэрыялы археалагічныя і антрапалагічныя, пачынаючы ад 2-га міжледніковага перыяду, матэрыялы лінгвістычныя аб прарадзіме арыйцаў, славян і рускіх, гістарычныя... і антрапалагічныя сучасныя. Працую над гэтым

пытаннем ужо даўно, але апошнія тры тыдні, карыстаючыся адпачынкам, я пісаў не разгінаючыся па 12—14 гадзін у суткі».

Па просьбе Беларускай акадэміі навук Адам Ягоравіч сеў за ўспаміны пра Максіма і ўвачавідкі пераканаўся, што творчасць сына — з'ява унікальная і што Максім — значная фігура беларускага Адраджэння.

## І першая звязда благаславіць канец прыгожага труда...

Для маладога таленту два вольныя месяцы жыцця сярод простых вясковых людзей — шчасце. Нарэшце паэт увачавідкі бачыў тых, для каго пісаў вершы. Народ беларускі яму дарыў мову, а ён народу дарыў лад сваіх дум, вялікую Паэзію. У ціхай вёсачцы адчыняліся яму глыбіні тагачаснага свету, сакавіта, аб'ёмна і шматфарбна паўставала перад ім жыццё роднай Беларусі. Ён падстаўляў малады твар сонцу, яго супакойваў блакіт высокага неба, гоман сасновага бору. А мова! А шчырасць душ людскіх! Усё гэта цешыла Максіма Багдановіча і было дарогай да акіяна жывога жыцця.

Плённы ракуцёўскі перыяд жыцця Максіма Багдановіча яшчэ не раз будзе вабіць даследчыкаў сваёй значнасцю і шматграннасцю, таямнічасцю яго творчай спадчыны. «...за два месяцы паэт напісаў 16 вершаў і дзве паэмы. Ведаў аб гэтым» Вацлаў Ластоўскі «са слоў самога паэта, які з Ракуцёўшчыны ехаў зноў

праз Вільню»[20]. На вялікі жаль, арыгінал паэмы «У вёсцы» згубіўся, і толькі двума гадамі пазней М. Багдановіч узнавіў яго, аб чым паведамляў у рэдакцыю: «...чарнавіка апошняй [паэмы «У вёсцы».— *Г. К.*] няма, аднак, здаецца, патраплю зноў напісаць». Шмат якія пазнейшыя творы пісаліся таксама пад светлым уражаннем ад жыцця сярод «крыніц натхнення», якія ёсць толькі ў родным краі.

Да часу прыезду ў Ракуцёўшчыну Максіма Багдановіча ведалі не толькі чытачы «Нашай Нівы» і яраслаўскіх выданняў. Пра яго, як пра маладога майстра, пісалі ўжо Сяргей Палуян, Іларыён Свянціцкі, Аляксандр Пагодзін, чэшскі літаратурны крытык Адольф Чэрны. Апошні, напрыклад, вельмі дакладна сказаў пра зусім яшчэ юнага беларускага творцу: «Багдановіч — чалавек новай культуры, сюжэты яго нешматлікіх невялікіх вершаў агульначалавечыя. Адрознівае яго паэзію незвычайнае пачуццё народнага духу, што адпавядае аб'ектыўным пачуццям сучаснага чалавека, выхаванага сусветнай літаратурай. Вершы яго сведчаць аб дараванні паэта, але ў творах яго мы яшчэ не адчуваем яснага паэтычнага профілю, і сам паэт яшчэ не адважыўся сабраць свае творы ў адно цэлае»[21].

Нібы ў адказ на заўвагу А. Чэрнага Максім Багдановіч і выбраў тое ракуцёўскае лета для работы над новымі цыкламі вершаў, а можа, і для сабрання іх «у адно цэлае», хоць апошняе паэт змог завяршыць ужо ў Яраслаўлі.

Якім жа вярнуўся Максім Багдановіч з Ракуцёўшчыны ў Вільню? Вацлаў Ластоўскі так успамінае: «Ізноў пачаліся паміж намі гутаркі на тыя ж тэмы. Ён цяпер яшчэ пэўней гля-

дзеў у будучыню. ...На вёсцы Максім Багдановіч не марнаваў часу. Ён напісаў там цыкл вершаў «Старая Беларусь», у якіх адбіліся яго настроі з пабыцця ў рэдакцыі «Нашай Нівы» і, цешу сябе,— часцю мае з ім начныя бяседы, акрамя таго — нізку вершаў «Места» і, урэшце,— «У вёсцы» і «Вераніка» [22]. Як далей піша В. Ластоўскі, Максім Багдановіч пасля ад'езду з Вільні даслаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» рукапіс зборніка, у якім былі сабраны яго вершы, «як некаторыя з раней друкаваных у «Нашай Ніве», так і нанова ім напісаныя, пад загалоўкам «Кніжка выбраных вершаў», з просьбай выпусціць асобнай кніжачкай. Рукапіс праляжаў у рэдакцыі больш паўгода, бо не было грошы, каб надрукаваць яго. І толькі ў 1913 годзе былі дабыты грошы на друкаванне рукапісу. Здарылася гэта такім парадкам. Мая швагерка, літоўская пісьменніца Пеледа, прывязла мне з Кейдан старое антыпедзіум з гербам «Равіч» (дзева едзе на мядзведзю). Гэтае антыпедзіум прадаў Іван Луцкевіч нейкаму памешчыку, каторы пячатаваўся гербам «Равіч», за 300 рублёў. 150 рублёў з гэтых грошы пайшло на аплату друкарні за друкаванне «Нашай Нівы», а другіх 150 прызначаны на выданне вершаў Максіма Багдановіча. Вершы былі здадзены ў друкарню. У час набору іх, перад надрукаваннем першага аркуша, Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч дасталі яшчэ нейкую суму грошы ад княгіні Магдаліны Радзівіл на выданне беларускіх кніжак. Пастаноўлена было паказаць спраўнасць перад княгіняй, і дзеля гэтага на загалоўнай старонцы пастаўлены герб Завішаў (Магдалена Радзівіл з дому Завішаў). Рысу-

нак на акладку даў я са свайго сабрання. Гэты рысунак у 1905 годзе зрабіў адзін з вучняў (не памятаю яго прозвішча)... Рысунак напамінае трохі вянок, дзеля гэтага і пастанавіў, карыстаючыся правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўтарскага яшчэ і свой загаловак «Вянок». Выходзіла нягорш і «Вянок. Кніжка выбраных вершаў». А каб апраўдацца перад чытачамі, чаму названа кніжка «Вянком», я на першым, пасля агалоўку, лісце памеціў раз'ясненне: «Вянок на магілу С. А. Палуяна (8 красавіка 1910 г.)». Зрабіў я гэта без ведама аўтара, але аснаваўшыся на яго сардэчным адношанні да нябожчыка Палуяна. Між іншым, калі кніжка выйшла, Максім Багдановіч быў вельмі задаволены з майго номыслу, што выразіў у форме падзякі вершам, які павінен быць у маіх архівах. Але, прыняўшы чула агаловак, Максім Багдановіч у даўжэзным лісце выказаў мне нездавальненне, што ў кніжцы прайшлі, праз недагляд карэктуры, даволі шматлікія памылкі, а галоўная з іх — у вершы «Вераніка». Пры ламанні верша пераблытаны парадак яго: пасля пятага шасцiверша (на 111 стар.) 9, 10, 11-е шасціверша, месца якім павінна быць на 113 стар. пасля восьмага шасціверша.

Віна была мая, але я не чуўся вінаватым, што і тлумачыў аўтару ў сваім пісьме. Аднак часовая астуда ў нашых стасунках была даволі хутка згладжана. У нас з Максімам Багдановічам нанова завязалася перапіска, якая цягнулася да лета 1914 года.

...Яго ж перапіска маецца ў мяне ў схове ў глухой правінцыі пад польскай акупацыяй. З часам, калі я дабуду яе, здужаю асобныя

моманты гэтага нарысу шырэй асвятліць фактычным матэрыялам» [23].

Успаміны В. Ю. Ластоўскага даюць даследчыкам не толькі новы матэрыял для вывучэння багдановічаўскай спадчыны, але і падказваюць кірунак іх далейшых пошукаў. Сам жа паэт, пазнаёміўшыся з раннімі творамі Ластоўскага, ацаніў іх так: «Власт надрукаваў 3—4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць» [24].

Няма сумненняў, што гутаркі на кватэры Ластоўскіх на Завальнай, 7 і шчырасць яе гаспадароў засталіся ў яго памяці. Гэта адгукнулася ў вершы «Ліст Ластоўскаму».

Хоць значыць гэтае несць у Афіны совы,—
Усё ж такі пішу да вас, Вацлаве, словы
Нясмелага ліста.

Даўно ўжо знікнуў дзень,
Ўжо стаўні замкнуты, гарыць агонь, і сцень
Ад галавы маёй са сценкі мне ківае;
У чорных рамках там сувора выглядае
Пісьменнікаў чарга; з іх кожны — блізкі друг,
Хоць і нябачаны у вочы. Светлы круг
Над імі кінула газніца. Пазіраю
Я часам на яго, а там ізноў да краю
Стала прыходзіцца схіліцца і пачаць
На белым аркушы далей лісты пісаць.

Вернемся да вясковага цыкла Максіма Багдановіча, што сталі лепшай часткай «Вянка».

Тэмы для сваёй творчасці Максім Багдановіч знаходзіў пад саламянымі стрэхамі хацінак Ракуцёўшчыны. Тут ён убачыў слёзы тугі па рана страчаным чалавеку, бядоту сялянскую, чуў радасць святочнага дня, жарты тутэйшых веселуноў.

Калісьці летняю — рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой

З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхлеўшыя; як латы,
Віднеліся ў сцянах сляпыя вокны іх,
І аж счарнелася салома стрэх гнілых.
Усё руйнавалася, старэла, адмірала,
І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду: мак яркія цвяткі,
Рознакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можа йшчэ было сям-там пабачыць грушу,
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго.
І да таго ж з людзей не відна нікаго,—
Яны на полі ўсе...

Сярод гэтай прозы вясковага жыцця Максім Багдановіч сустрэў дзяўчынку, якая даглядала малога. У яе вобліку паэт убачыў рысы мадонны.

Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, слёзкі
Сціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач — зусім як быццам маць,
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны,
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчыны той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой,—
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз маці божай лікі.

Сваім уяўленнем паэт змог уваскрасіць у вершах цыкла «Старая Беларусь» працу летапісца, самаахвярнага захавальніка гістарычнай памяці народа.

Ён пільна летапіс чацвёрты піша год
І спісвае усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрыя яго і кепскія дзяла
Апавядае тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.
І бачанаму ім — ён годны веры сведак.

Паэт прадчувае ўрачысты момант завяршэння працы майстра.

Ужо хутка будзе ноч, і першая звязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

У віленскай калекцыі ўлюбёнага збіральніка нацыянальных каштоўнасцяў Максім Багдановіч упершыню ўбачыў і залаталітыя слуцкія паясы і расказаў у вершах сумную гісторыю іх стваральніц.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Сэрца паэта трапятала і напаўнялася радасцю ад сустрэчы з гістарычнымі мясцінамі Вільні, вуліцы якой «зіяюць і гулка грымяць...». Верхам дасканаласці для М. Багдановіча стаўся касцёл святой Анны — цуд архітэктуры Вільні. Напалеон, як гаворыць легенда, гатоў быў на далоні перанесці яго ў Парыж.

...Глядзіш,— і ціхнуць сэрца раны,
І забываеш долі глум.

Прыйдзіце да касцёла Анны,
Там знікне горач цяжкіх дум,—

пісаў паэт.

Падняўшыся ўверх па Вострабрамскай вуліцы, Максім Багдановіч запыніў свой позірк на старажытнай сімволіцы, што засталася на старых мурах. Пазней паэт створыць верш «Пагоня», выразны водгалас падарожжа менавіта таго лета. У аўтографе паэт напісаў пад тэкстам верша: «У старой Вільні на муру Гострай Брамы высечаны герб мястовы — ваякі на імкнушчых конях. Герб гэты Вільня атрымала яшчэ за часы Вялікага княства Літоўскага, і завецца ён Літоўскай Пагоняй».

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.
Ў белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.
У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?
Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...
Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!
Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай зброяй далёка грымяць...

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Не ведаў Максім, што, ствараючы сімвал-вобраз Пагоні, ён напісаў гімн беларусаў.

Трэба думаць, што паездка ў Вільню і Ракуцёўшчыну для М. Багдановіча стала і сур'ёзнай праверкай яго духоўнай цвёрдасці, а ўрэшце рэшт выявіла, наколькі ён сур'ёзна быў гатовы да працы на карысць радзімы. Пра гэта і словы яго сябра Дзіадора Дзябольскага: «Мне думаецца, што пасля гэтай паездкі Максім адчуў і зразумеў, што ён сапраўды беларускі паэт».

На выхад «Вянка» Антон Луцкевіч адгукнуўся грунтоўнай рэцэнзіяй, упершыню даскакала прааналізаваўшы творчасць Багдановіча, вызначыўшы ёй месца ў беларускай літаратуры. Гэты факт і засведчаны ў аўтографе: «Пану Антону Навіну на спамін ад аўтара», адрасаваным таленавітаму крытыку.

Дзень добры, Пане! Вось Вам просты надпіс:
Ёсць гэткая японская забаўка,—
Кідаюць дробныя асклёпкі дрэва
У ваду — робяцца яны цвятамі.
Усё гэта мне згадалася міжволі,
Калі чытаў я Вашую стаццю
Аб вершыках «Вянка». І шлю падзяку
І цісну руку. Ваш М. Багдановіч.

*22.III.1914*
*Яраслаўль*

Аўтограф упершыню быў змешчаны ва ўжо ўспомненым зборніку «Заходняя Беларусь» [25]. Працытаваны верш кропка ў кропку сходзіцца з публікацыяй 1924 года, але некалькі адрозніваецца ад тэксту акадэмічнага двухтомні-

ка 1968 года. Юрый Антонавіч Луцкевіч даслаў тэкст гэтага аўтографа ў сваім лісце і напісаў пра драматычны лёс багдановічаўскага падарунка. «Успомнены экземпляр «Вянка» прапаў у мяне ў маі 1945 года разам з чамаданам на тэрыторыі Судэтаў — цяпер Чэхаславакія... Разам з «Вянком» у мяне прапаў экземпляр «Сымона-музыкі», выдання 1925 года з дэдыкацыяй: «Дарагому Антону Іванавічу Луцкевічу ад аўтара. Якуб Колас». Быў там і аўтограф Янкі Купалы на «Гусляры», і многія іншыя». Сумная страта. Але ж калі не агнём пайшлі кнігі, дык, можа, калі і адшукаюцца. Будзем верыць.

На пытанне пра адносіны Максіма з Іванам Луцкевічам Юрый Антонавіч адказаў, што яны былі самыя найлепшыя, прыязныя, адзін на другога зрабілі выключна добрае ўражанне. А вось ці падпісваў Максім свой зборнік Івану Луцкевічу, пляменнік не ведае: «У кожным выпадку ў нашай сям'і яго не было».

Ацэньваючы ўсё зробленае Максімам Багдановічам у Ракуцёўшчыне, можна з упэўненасцю сказаць, што яно заняло ў яго «Вянку» самае пачэснае месца. Паэт прыязджаў у Вільню якраз з канкрэтнаю мэтаю: вызначыць шляхі выдання свайго зборніка. І калі «Вянок» пабачыў свет толькі ў 1913 годзе, то вінаваты не Максім Багдановіч і яго сябры з «Нашай Нівы», а беднасць кашалька беларускай інтэлігенцыі. Антон Іванавіч пісаў знаёмаму: «Багдановіч хоча з свайго боку дапамагчы грашыма выдавецтву, плануе пазычыць грошы ў сваіх прыяцеляў, бо ў бацькі, зарабляе ў банку няшмат, прасіць не можа, урэшце жаліцца, што «ўкраінцы дасюль не заплацілі мне за пе-

раклад з беларускай мовы на расейскую», а гэтыя грошы ён прызначаў на друк сваіх вершаў: «...напісаў ім, каб яны выслалі грошы для Вас. Гэта на зборнічак» [26].

Напэўна, нешта з ракуцёўскага цыкла трапіла і ў прысланую ў Вільню падборку вершаў у 1912 годзе пад агульнай назвай «Старая спадчына». І трохі пазней прыйшоў ліст з запытаннем да рэдакцыі: «Ці атрымалі?» У гэтым жа лісце Максім Багдановіч цікавіцца Францыскам Скарынам, яго часам. Да Івана Луцкевіча ён звяртаўся з просьбай дапамагчы адшукаць матэрыялы пра даўнія копныя суды. Дзяліўся сваімі ўражаннямі аб «Кургане» Янкі Купалы. Радаваўся яго творчым поспехам, пісаў і пра Ядвігіна Ш., у творчасці якога асабліва цаніў народнасць.

## Як два язычніцкія бажкі

Той факт, што Максім Багдановіч жыў і пісаў у Ракуцёўшчыне, ўжо ні ў кога не выклікае сумненняў, хоць пошукі новых звестак можна працягваць і далей. І таму падумалася, што трэба адзначыць гэтую мясціну нейкім незвычайным помнікам, вельмі простым, народным, і ў той жа час сімвалічным, каб літаратурная карта Беларусі стала багацей на яшчэ адзін мемарыяльны знак.

З ласкі добрых людзей тут жа на Маладзечаншчыне адшукаліся два камяні арыгінальнай формы. У чэрвені 1977 года на ракуцёўскіх пагорках, дзе некалі рос бор, яны сталі побач у вечную варту. Адзін з іх атрымаў назву «Свечка», другі — «Ахвяравальніца», як

два язычніцкія бажкі. На адным, што як разгорнутая кніга, пліта з надпісам: «У в. Ракуцёўшчыне ў 1911 г. жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч», а ніжэй радкі паэта:

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Памяць жа ў беларусаў не такая ўжо і кароткая. Гарадскія хлопцы і дзяўчаты, якіх так дружна адгаворвалі вывучаць родную мову і гісторыю, цяпер добраахвотна ехалі ў свой вольны час у Ракуцёўшчыну, каб агульнымі намаганнямі прыбраць мясціну і падрыхтаваць яе да першага свята паэзіі.

Урачыстасць адкрыцця першага помніка вялікаму Паэту на Беларусі паклікала людзей з усяго наваколля: Ракуцёўшчыны, Чысці, Касцюшак, Краснага, Мясаты, Канчан і далейшых вёсак. Прыехалі госці з Маладзечна, Вілейкі, а найбольш з Мінска — беларускія пісьменнікі і аматары паэзіі. Праніклівыя вершы, узнёслыя словы добрай памяці і кветкі з розных палёў леглі ў вянок Паэту. На штогоднія багдановічаўскія святы паэзіі, якія звычайна праводзяцца ў дні майскага квітнення, едуць і ідуць людзі з розных куткоў Беларусі.

На час першага свята паэзіі была выказана добрая думка — пасадзіць на ракуцёўскім узвышшы, поруч з квяціста-мурожным логам, поруч з дарогай на Чысць, першы на беларускай зямлі пісьменніцкі парк. Мара не доўга заставалася марай — 24 красавіка 1981 года з дапамогай маладзечанскіх ляснічых стала рэальнасцю. Беларускія паэты Ніл Гілевіч, Алесь

Бачыла, Пятрусь Макаль, Яўгенія Янішчыц і іншыя ўрачыста заклалі «Максімаў сад». Першыя семдзесят дрэўцаў — па ліку тых летаў, якія праляцелі з той пары. Да ракуцёўскага стагоддзя, якое, спадзяемся, стане святам у 2011 годзе не толькі для беларусаў, а і для нашых далёкіх і блізкіх сяброў, тут будзе шумець зялёны гай — жывы помнік Максіму.

У многіх на памяці 90-гадовы юбілей Максіма Багдановіча і ўрачыстасць у Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета. Не радавой з'явай у гэтым родзе была таксама і мастацкая выстаўка, арганізаваная, у асноўным, стараннямі мастакоў Яўгена Куліка, Міколы Купавы і Алеся Марачкіна 8 снежня 1981 года ў рэспубліканскім Палацы мастацтва, дзе ўпершыню дэманстравалася дваццаць восем палотнаў, прысвечаных Ракуцёўшчыне, а поруч экспанаваліся цікавыя палотны з адлюстраваннем ужо знаёмых нам мясцін паэта ў Мінску, Гродне, Яраслаўлі, Ніжнім Ноўгарадзе, Ялце. Узнёслая паэзія, драматызм жыццёвых калізій натхнілі мастакоў, якія далі цэлую галерэю твораў, увасобіўшы ў іх вобраз вялікага Песняра. На выстаўцы былі прадстаўлены і эскізы будучага музея Максіма Багдановіча. Зараз рабочая група музея працуе над экспазіцыяй у адным з будынкаў на Траецкім прадмесці. Тады падумалася і пра філіял музея ў Ракуцёўшчыне, ва ўзноўленай хатцы, дзе жыў тым даўнім летам наш паэт.

Ідуць гады, кожны з іх цяпер набліжае нас да векавога юбілею Максіма Багдановіча. Энтузіясты з дапамогай Красненскага сельсавета прыбралі і падлагодзілі пагоркі, стварылі пляцовачку для гасцей, змайстравалі лавы і

іншае. На будоўлю зруба над крынічкай запрасілі лепшых мясцовых сталяроў. Грамадка за грамадкай багдановічаўцы ехалі сюды, каб папрацаваць над упрыгожаннем гэтага кутка. Яны дружна з гары на гару прыцягнулі ладненькі валун, які назаўсёды лёг поруч з запаветнай крыніцай, а разец мастака Пётры Гулевіча высек багдановічаўскае:

У родным краі ёсць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я магу пазбыцца
Сваёй нуды.

На старым доме Вацлава Лычкоўскага стараннем самадзейнага мастака Анатоля Уноткіна з'явілася мемарыяльная дошка: «У гэтым доме (перабудаваным у 1957 г.) улетку 1911 г. жыў і працаваў Максім Багдановіч». Устаноўлена дошка летам 1985 года.

Пройдзе шмат гадоў, паднімуцца новыя пакаленні беларусаў, а паэт застанецца ў іх жыцці, як быў з іх бацькамі і дзядамі. І сярод дарагіх мясцін будзе вымаўляцца з асаблівай пашанай назва — Ракуцёўшчына.

Паўторым за Данутай Бічэль-Загнетавай:

І за плячыма — наша Радзіма —
Кнігі Скарыны, зорка Максіма,
Белыя коні
Крыўскай пагоні
Мчацца угору
Праз Беларусь.

## Заўвагі

* На жаль, у 1990 г. знакамітая хатка Зоські Верас згарэла. Гл.: Аблажэй А. Рэквіем па лясной хатцы// Літ. і мастацтва. 1990, 15 чэрв.

1 Багдановіч М. Творы: У 2 т. Мн., 1928. Т. 1. С. XXXV.

2 Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 173—174.

3 Навіна А. Адбітае жыццё. Вільня, 1929. С. 59.

4 Гл.: Шлях паэта. Мн., 1975. С. 28.

5 Аддзел рукапісаў б-кі Вільнюскага ун-та імя В. Капсукаса, ф. 34 — ГД 491, арк. 1—6.

6 ЦДГА СССР (г. Ленінград), ф. 1290, воп. 11, спр. 153, арк. 169.

7 Аддзел рукапісаў Цэнтр. б-кі АН ЛітССР, ф. 21—279, арк. 8—10.

8 Каханоўскі Г. А. У родным краі. Мн., 1983. С. 5.

9 Гл.: Заходняя Беларусь: Зборнік грамадскае мыслі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняй Беларусі. Вільня, 1924. С. 121—122.

10 «Зорачкі» над Гудзонам // Беларусь, 1989. № 4. С. 10—11.

11 ЦДГА БССР, ф. 1416, воп. 6, спр. 854, арк. 167.

12 Крывіч, 1926. № 7. С. 67.

13 Дневник заседания комиссии для разбора и приведения в известность и надлежащий порядок предметов, находящихся в Виленском музеуме древностей. Вильно, 1865. С. 4.

14 Бярозкін Р. Звенні. Мн., 1976. С. 106.

15 Крывіч, 1926. № 7. С. 65.

16 Ермаловіч М. І. Яму падуладна // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1981. № 4. С. 23.

[17] Цыт. па кн.: Каўка А. Тут мой народ. Мн., 1989. С. 234.

[18] Аддзел рукапісаў Цэнтр. б-кі АН ЛітССР, ф. 21, спр. 176, арк. 17.

[19] Цыт. па кн.: Зубарев Л. Крик буревестника. Минск, 1989. С. 111.

[20] Гл.: Ватацы Н. Б. Шляхі. Мн., 1986. С. 73.

[21] Slowansky Prěhled. Praha, 1911, ročnik XIII, arvenec, cislo 10. S. 415.

[22] Крывіч, 1926. № 7. С. 66.

[23] Тамсама.

[24] Багдановіч М. Творы. Мн., 1928. Т. 2. С. 34.

[25] Гл.: Заходняя Беларусь... Вільня, 1924. С. 107.

[26] Аддзел рукапісаў Цэнтр. б-кі АН ЛітССР, ф. 21, спр. 825, арк. 255—256.

## ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*

КОХАНОВСКИЙ
Геннадий Александрович

**И СЕРДЦЕМ Я СТРЕМЛЮСЬ К ОТЕЧЕСКОМУ КРАЮ...**

*Из биографии Максима Богдановича*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

КАХАНОЎСКІ
Генадзь Аляксандравіч

**А СЭРЦА ЎСЁ ІМКНЕ ДА БАЦЬКАЎСКАГА КРАЮ...**

*З біяграфіі Максіма Багдановіча*

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка*

|Мастак *С. А. Барушка*|

Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*

Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*

Карэктар *К. А. Крукоўская*

ІБ № 3659

Здадзена ў набор 24.07.90. Падп. да друку 12.04.91. Фармат 70×90[1]/32. Папера мелаваная. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,92+0,59 укл. Ум. фарб.-адб. 4,25. Ул.-выд. арк. 3,64. Тыраж 3400 экз. Зак. 654. Цана 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Каханоўскі Г.**

К30 А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю...: З біягр. М. Багдановіча.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 77 с., [8] л. іл.

ISBN 5-340-00881-9.

Кохановский Г. И сердцем я стремлюсь к отече-скому краю...: Из биогр. М. Богдановича.

Важная падзея ў жыцці Максіма Багдановіча — паездка на Беларусь летам 1911 г.

Аўтар на аснове архіўных знаходак — а гэта ўспаміны сучаснікаў, лісты нашаніўцаў і бацькі паэта да знаёмых Максіма — узнаўляе бадай самы плённы, так званы ракуцёўшчынскі, перыяд у творчасці паэта. Выданне падрыхтавана да 80-годдзя сустрэчы Максіма Багдановіча з Беларуссю і 100-годдзя з дня нараджэння.

К $\frac{4603020102-71}{М\ 302(03)-91}$ БЗ 6—91

ББК 83.3Бел 7